PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (1921) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 7 САКАВІКА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## У ЕЎРОПУ

Ужо некалькі год жывем з лозунгам „ідзем у Еўропу". Не надта вядома, што гэта дакладна абазначае, але большасць т. зв. „еўрапеізацыю" бачыць як дасягненне такога матэрыяльнага ўзроўню жыцця грамадства, як у заходніх краінах. Менш пры гэтым звяртаецца ўвагі на грамадскі кошт стварэння такога дабрабыту — патрэбу адпаведнай арганізаванасці, гатоўнасці да кампрамісаў, пашану чужых інтарэсаў, дысцыпліну і якасць працы.

Заходнееўрапейская цывілізацыя апошніх дзесяцігоддзяў — пра што рэдка ўспамінаецца — вырасла ва ўмовах пашаны поглядаў кожнага чалавека, а таксама ўсялякай іншасці — культурнай, рэлігійнай, нацыянальнай. У нас пакуль што найчасцей гаворыцца пра талерантнасць, прычым разумеецца яна амаль у катэгорыях шаснаццатага стагоддзя. Бачым няраз перад сабой такіх ласкаўцаў, якія доўга расказваюць нам пра сваю талерантнасць, а разумеюць яе так, што дазваляюць жыць і працаваць побач сябе людзям іншай нацыянальнасці ці веравызнання. І гэты факт лічаць чымсьці надзвычайным, не ўяўляючы сабе, што ў Еўропе іх панска-феадальная ласкавасць мае музейны характар. Там пашана іншасці ўспрымаецца як сімптом нармальнасці і натуральнасці, у нас як нешта асаблівае, чым можна нават бязупынна хваліцца.

Яшчэ не так даўно амаль кожны, хто толькі меў якую-небудзь нагоду, уцякаў з Польшчы на Захад. Ніхто там не чакаў гасцей з Усходу, а наадварот, нямецкая, італьянская, французская прэса пісала пра вулічных гандляроў, бруд, зладзеяў і прастытутак з-над Віслы. Цяпер быццам усе пра гэта забылі. Натоўп на ўсходняй мяжы Польшчы, дзе ўпершыню савецкім людзям адчынілі клетку, выклікаў дзікі крык усялякіх нацыяналістаў. Якіх аргументаў яны не ўжываюць — ад санітарных пачынаючы, на суперпатрыятычных канчаючы. Магчыма, што „турысты" з Усходу выглядаюць не надта па-еўрапейску, але ж не інакш выглядалі палякі на вуліцах Берліна, Вены, Рыма яшчэ пад канец 80-х гадоў. Не грошы адтуль прывезеныя мяняюць вобраз Польшчы, а ўзоры штодзённага жыцця жыхароў тых краін, якія пабачылі там нашыя т.зв. аматары іхняй архітэктуры і краявідаў пару гадоў раней.

Сёння міністэрства паліцыі заклікае закрыць мяжу грамадзянам Беларусі, Украіны, Расіі. У тэлебачанні штораз часцей гучыць балбатня пра пагрозу хмараў жабракоў, якія збіраюцца за ўсходняй мяжой Польшчы. Шукаецца гвалтоўна апраўдання і простых рашэнняў, каб іх паўстрымаць.

Паводле старых тутэйшых прынцыпаў, калі ў дом уваходзіў хтосьці важнейшы за гаспадара, трэба было падаць перад госцем на калені, запрашаць, частаваць, рабіцца пакорным слугам. А калі ў дом завітаў хтось малаважны, найлепш было яго прагнаць, пазбыцца так, каб другі раз не захацелася яму нават на парог увайсці. Невядома ці гэты стары, феадальны звычай прымецца як прынцып дзяржаўнай палітыкі, невядома таксама, калі і хто будзе важным, а калі і хто будзе жабраком. Адно толькі вядома, што ў т.зв. Еўропу гэтая дарога не вядзе.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ




Кароткая гісторыя Еўропы канца XX і пачатку XXIст.ст.

**18 лютага 1993 года Ваяводскі суд у Беластоку засудзіў 32-гадовага грамадзяніна Казахстана Міхаіла А. за спробу рабунку на грамадзянцы Беларусі Валянціне С. на 3 гады турмы і грашовую кару 2 мільёнаў злотых. Дадаткова суд засудзіў Міхаіла А. на 620 тысяч злотых судовай аплаты і мільён злотых аплаты за назначанага яму абаронцу. У кару суд улічыў арышт, у якім Міхаіл А. прабывае з 27 кастрычніка 1992 года, чакаючы на разгляд свае справы.**

## ПАСТРАЛЯЎ САБЕ

27 кастрычніка 1992 года падвечар Валянціна С. і яе беластоцкі гаспадар, які і запрасіў яе ў Польшчу, паехалі на чыгуначны вакзал у Беластоку, каб купіць Валянціне білет на цягнік у Гродна. На вакзал даехалі каля 19 гадзіны. Білет пайшоў купляць гаспадар, а Валянціна С. засталася навонкі будынка вакзала. Тады падышоў да яе Міхаіл А. і пачаў патрабаваць 100 тысяч злотых. Тая адказала, што ў яе няма такіх грошай. Міхаіл А. стаў пагражаць ёй рэвальверам - выстраліў зблізку ў твар Валянціны С. Газ ашаламіў яе. Выстрал гэты пачулі таксісты, якія і схапілі Міхаіла А., калі той пачаў уцякаць з месца злачынства. Уцякаючы, згубіў ён рэвальвер. Шафёры прытрымалі Міхаіла А. пакуль з'явілася паліцыя.

У выніку выстралу з блізкай адлегласці газ папарыў твар Валянціны С. - раны на ім утрымліваліся звыш тыдня. У час першага допыту Міхаіл А. паясніў, што рэвальвер выстраліў зусім выпадкова, паясніў таксама, што не меў ён да гэтай пары дастатковай практыкі ў карыстанні такім тыпам зброі.

18 лютага гэтага года Ваяводскі суд у Беластоку разгляную справу Міхаіла А. Абвінавачаны сказаў, што жыве ў Алма-Аце, па нацыянальнасці ён расеец, сярэдняя прафесійная адукацыя, жанаты, трое дзяцей, дагэтуль не быў суджаны. У Польшчу прыехаў другі раз - запрашэнне купіў вясною 1992 года на базары ў Беластоку /паводле абвінавачаў запрашэнне гэтае фальшывае/.

На пытанне дзе і навошта набыў ён зброю, Міхаіл А. адказаў, што вясною 1992 года, калі першы раз быў у Польшчы, яго аграбілі. Рэвальвер купіў на базары за паўтара мільёна злотых/камплект складаўся з рэвальвера, кабуры і шлеек/, каб бараніцца ў выпадку грабяжу. Не ведаў, што ў Польшчы на газавую зброю патрэбны дазвол. На пытанне, ці меў ён у сваім жыцці дачыненне са зброяй Міхаіл А. адказаў, што так, калі служыў у арміі. У арміі праслужыў ён два гады - паўгода ў Расеі і паўтара ў Афганістане.

У сувязі з тым, што 27 кастрычніка мінулага года паліцыя затрымала Міхаіла А. у нецвярозым відзе, старшыня судовага складу запытаў яшчэ абвінавачанага пра тое, колькі ён выпіў гэтага дня. Той адказаў, што не памятае гэтага - купіў ён тады чатыры бутлі гарэлкі ад рускіх, але не выпіў сам. Суддзя аднак настойваў на тое, каб абвінавачаны паспрабаваў пры-

☞ *Працяг на стар. 2*

## ПАСОЛ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У РЭДАКЦЫІ „НІВЫ"

У чэрвені мінулага года ў Варшаве было адкрыта пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. З таго часу спадар Уладзімір Сянько з'яўляецца галоўным дыпламатычным прадстаўніком Рэспублікі ў Рэчыпаспалітай.

Пасол У. Сянько, наведаўшы Беласток з нагоды агляду „Беларуская песня '93", удастоіў сваім візітам нашу рэдакцыю. Апрача сяброў рэдакцыйнага калектыву ў сустрэчы ўзялі ўдзел журналісты „Часопіса", Беластоцкага радыё, а таксама старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак і Сакрат Яновіч.

Спадар пасол цікавіўся праблемамі беларускага выдавецкага руху, умовамі развіцця беларускага школьніцтва і арганізацыйнай актыўнасцю беларускага асяроддзя. Апошнім часам паўстала на Беласточчыне некалькі арганізацый, якія сёння аб'ядноўваюцца ў Беларускі саюз. Сапраўды, вонкавым назіральнікам часам цяжка разабрацца ў мэтах дзейнасці ўсіх гэтых аранізацый.

Як сказаў пад канец паўтарагадзіннай сустрэчы пасол Сянько, шмат чаго, што дзеялася ў беларускім асяроддзі ў Польшчы, было яму не надта яснае, а асабліва характар адносін паміж паасобнымі арганізацыямі.

У наш адрас спадар Сянько паставіў закід — з якім зрэшты нельга не згадзіцца — што вельмі мала пішам пра працу пасольства і не заўсёды нашы каментары адлюстроўваюць сутнасць справы. Спадзяемся, што ў будучыні будзем мець лепшую інфармацыю з пасольства Рэспублікі Беларусь і такім чынам больш дакладна будзем інфармаваць нашых чытачоў пра яго дзейнасць.

Я. М.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Najwięcej prezerwatyw w przeliczeniu na jednego mieszkańca sprzedaje się w Bielsku Podlaskim (2,3 sztuki na 1 osobę), w Warszawie — 1,5.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 42)*

Вось і ясна, чаму беларусаў не большае.

* * *

*Ten kordon sanitarny mamy zbudować w momencie, kiedy Europa się otwiera, łączy, znosi wizy, kontrole celne... My sami chcemy z tego otwarcia korzystać, domagając się podróży bezwizowych.*

*Powierzono nam rolę wykidajły, stojącego w wejściu do schludnej, kulturalnej i ogromnie wrażliwej moralnie Europy. Zaproponowano nam wspaniałomyślnie rolę tych jakby „lepszych", którzy mają nie wpuszczać „gorszych" — rozmaitych intruzów i brudasów ze Wschodu i z Południa do europejskiego salonu. Każdy odźwierny czuje się w ten sposób lepszy od włóczęgi. Ale państwo rzadko podają mu rękę.*
*(Polityka, nr 8)*

Але час-часам заплацяць за гэтую ганаровую пасаду *wykidajły*. Нельга аднак не заўважыць, што польскае геапалітычнае становішча палепшылася: з *przedmurza Europy* Польшча перасунулася да *przeddźwierza*. Магчыма, што калі-небудзь увойдзе на „przedpokoje".

* * *

*Ogólnie — ja też nie zgadzam się z tym, żeby traktować jako ofiary walki narodowościowej pracowników aparatu bezpieczeństwa i partii. Niestety, te same oddziały, które zabijały tych ludzi mając ku temu powody, prowadziły pacyfikacje wsi białoruskich paląc chaty i mordując ludność, w tym kobiety i dzieci. W ten sposób jakby wszyscy stają się ofiarami tym bardziej, że wielu Białorusinów wstąpiło do milicji, żeby po prostu dostać broń. Natomiast społeczeństwo polskie, odreagowując na propagandę komunistyczną, która podziemie antykomunistyczne przedstawiała jako „bandy", zaczyna wynosić na piedestały postacie, które dla Białorusinów są symbolem zbrodni. Chodzi przede wszystkim o Romualda Rajsa „Burego", który dla Polaków powoli staje się bohaterem, natomiast dla Białorusinów jest to podpalacz i morderca.*
*(Z wywiadu Olega Łatyszonka dla „Gazety Polskiej", nr 8)*

* * *

*Na świadomości i Polaków i Białorusinów ciążą sprawy trudne, bolesne jak krzywda i zbrodnia doznana od pobratymców, czasem od sąsiadów z tej samej wioski, z tego samego miasteczka. Istnieje potrzeba rozliczenia krzywd po obu stronach. (...) Nadszedł czas, który żąda od nas, by były rzetelnie spisane czyny i rozmowy. To właśnie jest zadaniem elit polskiej i białoruskiej na Białostocczyźnie.*
*(Czesław Seniuch, Gazeta Polska, nr 8)*

* * *

*Nie jest ważne, czy w Polsce będzie kapitalizm, nie jest ważne, czy w Polsce będzie wolność słowa, nie jest ważne, czy w Polsce będzie dobrobyt — najważniejsze, aby Polska była katolicka.*
*(Henryk Goryszewski, wicepremier, w wypowiedzi w trakcie mszy świętej, rozpoczynającej wizytę wicepremiera w Rudce k/Brańska, „Gazeta Współczesna", 1 lutego 1993 r.)*

* * *

*Wybitny polski filozof i teolog o. J. Bocheński w głośnym wywiadzie telewizyjnym powiedział, iż tradycją naszą jest cywilizacja średniowieczna z jej ideałem państwa wyznaniowego, a tak przedstawionej cywilizacji przeciwstawił dziki Wschód zobrazowany w postaci pijanego mnicha w Poczajewie ryczącego prawosławne pieśni.*
*(Polityka, nr 7)*

* * *

*Мы дзейнічаем, як у тым анекдоце, вельмі сумным. Вырашылі нейкія асобы павесіць беларуса, і калі ў яго спыталі, на якой яму вяроўцы вісець, дык той адказаў: „На любой, абы вам, паночкі, добра было..."*
*(ЛіМ, н-р 6)*

* * *

*Нямецкая фірма, якая знаходзіцца ў Мюнхэне, распачала друкаванне беларускай нацыянальнай валюты, і адзін намінал грошай ужо надрукаваны.*

*Узоры купюраў распрацавала створаная Нацыянальным банкам група мастакоў. На банкнотах, памер якіх прыкладна супадае зь нямецкай маркай, з аднаго боку вывы Скарыны, Купалы, Коласа, Цёткі.., а на адваротным - помнікі архітэктуры Беларусі.*

*Узоры банкнотаў, па нашых зьвестках, былі зацьверджаны Прэзыдыюмам ВС на закрытым паседжаньні яшчэ на пачатку лета 1992 г. Тады ж была зацьверджаная і назва беларускай грашовай адзінкі - РУБЕЛЬ. "К рублю все привыкли" - такі быў галоўны аргумэнт.*
*(Свабода, н-р 1-2)*

Как, впрочем, к русскому языку и к коммунизму.

## ПАСТРАЛЯЎ САБЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

намсі прыблізна ацаніць тую колькасць алкаголю, якую выпіў да злачынства. Міхаіл А. адказаў, што было гэтага два бутлі. А колькі абвінавачаны можа выпіць, каб добра сябе адчуваць, дапытваўся яшчэ суддзя. Той адказаў, што колькасцю такой з'яўляецца 200 грам.

Суд прызнаў Міхаіла А. вінаватым спробы рабунку на грамадзянцы Беларусі і засудзіў яго на тры гады турмы ды грашовую кару. Калі да гэтай кары дадаць канфіскацыю рэвальвера, за які, паводле абвінавачанага, заплаціў ён паўтара мільёна злотых - назбіралася гэтага 5 мільёнаў 120 тысяч злотых. З аднаго боку, для чужынца, сума гэтая не такая ўжо і малая. З другога ж - яна непараўнальная з коштамі, якія дзяржава адвядзе на трохгадовае ўтрыманне вязня. Вядома, што справа іначай маецца, калі вязень працуе і такім чынам зарабляе на сваё ўтрыманне ў турме. Але ці сёння ёсць у Польшчы якое-небудзь запатрабаванне на працу вязняў, калі працы гэтай, як прынцып, бракуе і людзям са звычайнай прафесійнай адукацыяй, і высокаадукаваным спецыялістам?

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Нелегальнасць "Нівы" скончана.
- ✓ Апусцелі беларускія вёскі.
- ✓ "Беларуская песня '93".
- ✓ Высвяцілі новую арку ў Засцянках каля Беластока.

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан** у рамках ашчаднасці дзяржаўнага бюджэту намяраецца закрыць радыёстанцыі **Вольная Еўропа і Свабода** не пазней 1996 года. Сёлетні гадавы бюджэт гэтых радыёвяшчальных устаноў складае **суму 207 млн. долараў.**

**Саюз палякаў у Літве** накіраваў афіцыйны пратэст прэзідэнту краіны і арганізаваў пікет перад парламентам у сувязі з непрызнаннем раённай выбарчай камісіяй сапраўднасці вынікаў выбараў у шасці акругах Віленскага раёна. Такая сітуацыя, на думку арганізатараў пратэсту, можа паслужыць апраўданнем для камісарычнага кіравання раёнам у далейшым.

**Пост у мусульман** пачаўся 21 лютага. Польскія татары сустрэліся з гэтай нагоды на супольнай малітве ў Варшаве, Гданьску і Беластоку. Не было толькі супольнай малітвы ў мячэці ў Багониках, бо дарогу ў гэтую вёску замяло, а дарожная служба не паспела яе расчысціць.

**Першы міжнародны тэкстыльна-адзежны кірмаш** адбыўся ў Беластоку. У вялікай спартыўнай зале Медыцынскай акадэміі свае тавары экспанавалі 50 краёвых фірмаў, 19 з Беларусі і адна з Літвы. У адкрыцці гэтага гандлёва-рэкламнага мерапрыемства ўдзельнічаў міністр лёгкай прамысловасці Беларусі **Мікалай Гулеў.**

**Управа гміны ў Кляшчэлях** можа апынуцца ў даволі цяжкай фінансавай сітуацыі і то з прычыны ліквідацыі мясцовага ПОМа /машынна-трактарнай станцыі/. Пераймальнікам маёмасці ліквідаванага ПОМа з'яўляецца менавіта Управа гміны, а былыя працаўнікі гэтай фірмы патрабуюць ад яе выплаціць належны ім эквівалент за вугаль. Раённы суд у Бельску-Падляшскім прыхіліўся да такога патрабавання. Управа гміны падала на апеляцыю ў Найвышэйшы суд у Варшаве. Калі суд загадае выплаціць былым працаўнікам грошы, тады трэба будзе знайсці ў гмінным бюджэце на гэтую мэту адзін мільярд злотых, што на сённяшні дзень здаецца справай нерэальнай.

**Пагранічнікі з КПП у Кузніцы-Беластоцкай** у цягніку Санкт-Пецярбург - Варшава выявілі тайнік, у якім знаходзілася восем ікон і царкоўны літургічны крыж з жоўтага металу. Ніхто з пасажыраў да знойдзеных каштоўнасцяў не прызнаўся.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### БЕЛАРУСЫ, БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ!

Днямі ў Менску адбылося чарговае пасяджэнне Сойма Беларускага народнага фронту /БНФ/. Удзельнікі гэтага форуму абмяркоўвалі становішча ў рэспубліцы пасля аднаўлення Камуністычнай партыі. У выніку была прынята рэзалюцыя, у якой БНФ зноў пацвердзіў сваю антыкамуністычную пазіцыю, а таксама вылучыў патрабаванне да парламента даць дазвол на правядзенне рэферэндуму.

Акрамя таго, на Сойме было заяўлена, што БНФ, магчыма, не прыме ўдзелу ў сустрэчы беларусаў свету, якую плануецца правесці летам бягучага года ў Менску. Асноўныя довады "франтоўцаў" на гэты конт: "сустрэча беларусаў свету можа ператварыцца ў прапагандысцкую акцыю, якая будзе на карысць пракамуністычнага ўрада Беларусі".

### НА ВЯЛІКІ СХОД ЗА ПРЭЗІДЭНТА!

Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі /АДПБ/ выступае за ўвядзенне інстытута прэзідэнта ў рэспубліцы як мага найхутчэй. Гэта пры наяўнасці прафесійнага парламента, Канстытуцыйнага суда і пры рэальным мясцовым самакіраванні павінна паспрыяць пачатку сур'ёзных рэформаў і вывесці грамадства з крызісу. Для абмеркавання механізма заканадаўчага афармлення гэтай ідэі дэмакраты заклікаюць на "круглы стол" прадстаўнікоў Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета, парламенцкія фракцыі, палітычныя партыі і рухі.

### ПАМЯЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

На мінулым тыдні з'ехаліся вядомыя беларускія літаратары, крытыкі, мастацтвазнаўцы, артысты, драматургі, каб ушанаваць памяць Максіма Гарэцкага з нагоды 100-годдзя з дня яго нараджэння. Сёння імя расстралянага ў 1938 годзе Максіма стаіць побач з імёнамі Купалы, Коласа, Багдановіча, а на яго радзіме, у вёсцы Малая Багацькаўка, праз 55 гадоў, нарэшце, адбылося адкрыццё музея.

### ПРЭЗІДЭНТ КРАЎЧУК НА МАГІЛЕ БАЦЬКІ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук сустрэліся ў нядзелю ў мястэчку Акцябрскі, што на Гомельшчыне.

Нагода для неафіцыйнай сустрэчы - далёкая ад палітыкі. Прэзідэнт Краўчук знайшоў нарэшце магілу свайго бацькі, які загінуў у 1944 годзе.

### ЦЯЖКІ ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

Выдавецкая кампанія "Беларусь-тэхналёгія" выпусціла ў свет "Расейска-беларускі хімічны слоўнік" тыражом у адну тысячу экземпляраў. Вайну катастрафічнай нястачы тэрміналагічных слоўнікаў аб'явілі прадстаўнікі Задзіночання беларускіх студэнтаў, якія і былі ініцыятарамі і асноўнымі складальнікамі выдадзенага дапаможніка. У далейшым плануецца выдаць слоўнік анатамічнай наменклатуры і фізіялагічны слоўнік. Дапамаглі ў выхадзе слоўніка ў свет народны дэпутат Беларусі Уладзімір Новік, фірма "Дайнова" і наш суайчыннік з Францыі Міхась Навумовіч.

### НАШ ГОРАД - НЕ ТУРМА

У Лідзе ўтвораны камітэт праціздзеяння рашэнню вышэйстаячых кіруючых органаў аб размяшчэнні ў гарадской рысе турмы, следчага ізалятара, дзвюх зон пасялення зняволеных. У тыднёвы тэрмін камітэт пачынае збор подпісаў сярод жыхароў супраць небяспечнага суседства.

### ДОМ, ДЗЕ ПАНУЮЦЬ ЖУРНАЛІСТЫ

У Менску ўтвораны Нацыянальны прэс-цэнтр Беларусі, які будзе забяспечваць адзінства дзяржаўных, грамадскіх і міжнародных інфармацыйных інтарэсаў суверэннай рэспублікі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

### ВІНШУЕМ!

22 лютага 1993 г. праф. **Аляксандр Баршчэўскі** атрымаў тытул доктара honoris causa ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Менску. Рэдакцыя „Нівы" віншуе выдатнага вучонага і грамадскага дзеяча з гэтым дастойным узнагароджаннем. Прыемнасць для нас тым большая, што праф. д-р А. Баршчэўскі з'яўляецца шматгадовым верным карэспандэнтам і прыяцелем нашай газеты.

### МНОГАЯ ЛЕТА!

Спадару **Серафіму Андраюку** — галоўнаму рэдактару выдавецтва „Мастацкая літаратура" ў Менску з нагоды юбілею 60-годдзя з дня нараджэння ўсяго найлепшага жадаюць

**Управа Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і рэдакцыя „Нівы".**

## "ДОБРЫ ЧАЛАВЕК"

Васіль паехаў у Беласток купіць нешта ды аформіць адну справу ў Ваяводскай управе. Сеў у гарадскі аўтобус. Ехаць трэба было яму добры кавалак дарогі.

Падсеў да яго незнаёмы, акуратна выглядаючы мужчына. Зачапіў Васіля, пачаў дапытвацца, у якой справе прыехаў у ваяводскі горад. Ахвяраваў дапамогу ў афармленні справы, ведаў, дзе танней можна купіць патрэбны тавар. Васілю спадабаўся гэты адкрыты і ветлівы чалавек, Марцін. Мужчыну, відна, даспадобы быў і Васіль. Па-мужчынску кляпаў яго па плячы, аж урэшце шчыра развітаўся, бо раптам убачыў знаёмага, які стаяў на прыпынку.

- Чаму ж ён так хутка пайшоў?.. Наабяцаў, а забраўся ды пайшоў!

Калі Васіль выйшаў з аўтобуса, накіраваўся ў кіёск, купіць цыгарэты. Сунуў руку за пазуху - няма кашалька! А на руцэ - гадзінніка! У кішэні курткі меў быў раней зачатую пачку цыгарэт, хацеў у нервах засмаліць, памацаў, а тут - і гэтых цыгарэт няма...

Вось дый дагаварыўся! Вось дый добры чалавек!

Пехатой пайшоў Васіль у паліцыю. Дзяжурны, выслухаўшы яго, сцвердзіў, што меў ён сустрэчу з "Імапам". Яго шукае паліцыя, але пакуль што, не можа трапіць на след. Калі "Імапа" знойдуць, Васіль можа быць сведкам у судзе...

- А што мне з таго цяпер?! У мяне нават няма грошай, каб вярнуцца дахаты!

Паліцэйскі зліітаваўся, пазычыў грошы Васілю на аўтобус.

- Цяпер лепш да нікога ў горадзе не азывацца, - разважаў Васіль, седзячы ў кампаніі ў нядзельку. - Так хутка цябе абяруць, што і не агледзішся!

АЎРОРА

## ЗУБРЫНЫ СТАТАК

- Мы маем абавязак штогод праводзіць падлік зуброў, - гаворыць мне інж. Ежы Дацкевіч, кіраўнік Асяродка гадоўлі зуброў Белавежскага нацыянальнага парку. - Сваіх "падначаленых" лічым зімой, калі ёсць снег. Зубры тады гуртуюцца ў большыя статкі і трымаюцца пераважна месцаў, у якіх пакідаем корм. Хаця кожны раз устанаўляем стан на апошні дзень года, то пералікі звычайна працягваюцца да пачатку лютага. Гэтак было і цяпер.

Затым, колькі зуброў жыве зараз у польскай частцы Белавежскай пушчы? Аказваецца, што 293 штукі, з чаго 259 на свабодзе, а 34 у спецыяльных загарадзях. Калі падзяліць іх на полы, то маем 128 самцоў і 165 самак. У мінулым годзе нарадзілася 45 зубранят. Страты жа ў белавежскім статку склалі 57 зуброў /35 штук застрэлілі, 14 штук адаслалі ў Францыю, а тры ў заапарк у Познані, апошнія звяры памерлі ад старасці або загінулі ў нявысветленых абставінах/.

У бягучым годзе паляўнічыя плануюць застрэліць ажно 60 штук, бо леснікі наракаюць, што зубры наносяць у пушчы вялікія шкоды. Вядуцца таксама перагаворы наконт пастаўкі зуброў у Нямеччыну і Чэхію.

- Што датычыць ліку зуброў у беларускай частцы пушчы, - гаворыць мгр Малгажата Болбат з БНП, - дык маем пакуль што дадзеныя гадавой даўнасці. У пачатку мінулага года жыло там 315 зуброў, у тым ліку толькі два ў загарадзі.

Так, што можам лічыць, што ў цэлай Белавежскай пушчы ў даны момант пражывае звыш 600 зуброў. Імпазантна!

ПЁТР БАЙКО

## БАБРЫ НА ЛУТОЎНІ



Бабры ў Белавежскай пушчы пастаянна пашыраюць займаемыя сабой плошчы. Нядаўна пасяліліся яны на рэчцы Лутоўня, якая ўпадае ў раку Нараўку. Непадалёку вусця рэчкі бабры зрабілі хатку і плаціну, якая паднесла ўзровень вады амаль на 29 см. Сляды згрызання відаць на дрэвах ужо 50 м ад Філіпаўкі, значыць ад месца, дзе турысты паляць кастры.

П. БАЙКО
Фота Сяргея Тарасевіча

Беларуская песня '93

## РАЁННЫ АГЛЯД У ГАЙНАЎЦЫ

У раённым аглядзе конкурсу „Беларуская песня'93" у Гайнаўцы ўздзельнічала дзевятнаццаць калектываў і чатыры салісткі. З васьмі гмінаў і аднаго горада. Узровень конкурсу быў высокі. Амаль усе спевакі мелі прыгожыя народныя ўборы.

У катэгорыі фальклорнай аўтэнтычнай песні сярод салістаў другім месцам падзяліліся **Еўдакія Маркевіч** з Дашоў і **Валянціна Клімовіч** з Дабрывады (Кляшчэлеўская гміна). Першага месца журы не прызнала. Трэцяе месца заняла **Ірэна Лукша** (наша Аўрора) з Мора. У гэтай катэгорыі другое месца (на першае нікога не класіфікавалі) журы прызнала дуэту: **Валянціне Міцэвіч і Зосі Кердалевіч** з Дашоў. Сярод вакальных калектываў два раўнапраўныя месцы занялі **„Арэшкі"** з Арэшкава (Гайнаўская гміна) і жаночы ансамбль з **Дабрывады**. Тры другія месцы падзялілі між сабою калектывы: **„Каліна"** з Дашоў, **„Тыневічанкі"** з Тыневічаў і ансамбль з **Чаромхі**. Трэцяе месца занялі **„Незабудкі"** з Курашава (Чыжоўская гміна).

У катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні: першае месца: квартэт са **Старога Ляўкова** (Нараўчанская гміна), раўнапраўныя другія месцы: жаночы гурт з **Чыжоў** і мужчынскі гурт **„Рэаль"** з Крыўца (Нараўская гміна), трэцяе месца: мяшаны квартэт з **Чыжоў**.

У катэгорыі сучаснай песні: першае месца — вакальны калектыў **„Цаглінкі"** са Старога Ляўкова, сярод малых калектываў другое месца (першага не прызналі) — мужчынскі квартэт з **Гайнаўкі**. Сярод хораў: першае месца: жаночая група песеннага ансамбля Гайнаўскага дома культуры, першае месца: мужчынская група песеннага ансамбля ГДК і яшчэ адно першае месца: ансамблю таго ж **Гайнаўскага дома культуры**. Так, так — усе першыя для хору ГДК!

Варта адзначыць, што ў падрыхтоўку некаторых песенных калектываў — між іншым, з Гайнаўкі, Ляўкова і Чыжоў — вялікі ўклад унеслі інструктары з Рэспублікі Беларусь: А. Стрыха, В. Пакумейка і Я. Куніцкі.

ЯНКА ДАРОЖНЫ




## СУПОЛКА

У „Ніве" н-р 6 ад 7 лютага 1993 г. быў змешчаны допіс Дзядзькі Захара „Як будзем жыць!" Трэба сказаць, што там была напісана ўся праўда. Я таксама сваё ўжо адпрацаваў і цяпер атрымліваю 963.200 злотых пенсіі. Гэта мала, але больш чым у Дзядзькі Захара і таксама цяжка мне прыходзіцца. Але давайце не будзем бедаваць, толькі шукаць выйсця з сітуацыі. Думаю, што трэба кожнаму ў сваёй гміне арганізаваць суполку. Прэзэсам такой суполкі мог бы быць той дзядзька, які прабыў 12 гадоў у Варкуце. Ён там усё перажыў, і голад, і холад, і бачыў сапраўдную смерць.

А вось прапаную, каб суполку назваць зладзейскай (Spółka Złodziejska z ograniczoną odpowiedzialnością). Суполку трэба зарэгістраваць у гміне, ухваліць адпаведны статут, рэгулярна адводзіць дваццаціпрацэнтны падатак і ўсё будзе ў парадку. І так, калі вы, як член суполкі, дастанеце пенсію, хутчэй аплачвайце свае даўгі, потым бярыце пашпарт, ідзіце ў краму і заказвайце неабходны тавар, а калі ўжо ўсё паложыце ў сумкі, дайце прадаўшчыцы свой пашпарт, хай яна запіша вас у кнігу і дасць рахунак. Грошай не плаціце, а калі вас ужо пакліча паліцыя і дакажа, што гэта нязгоднае з нашым правам, дык не бойцеся. Памятайце, што члены суполак, напрыклад Багсік, удзельнікі алкагольнай, тытунёвай, паліўнай афёраў у турме не сядзяць, хаця дзяржаве нанеслі міліярдныя страты.

Калі ўжо вас пасадзяць у турму, не бойцеся, цяжкай вам працы не дадуць. Вы ж пенсіянер, ужо сваё адпрацавалі, а там накормяць, скажуць, калі спаць лягаць, і калі ўставаць.

Такім як мы могуць даць чырвоныя безрукаўкі на плечы, мётлы і загадаць прыбіраць вуліцы або базары ў Беластоку. Нас не трэба будзе пільнаваць, мы за граніцу не ўцячэм, бо голыя, а на вячэру і начлег самі вернемся ў турму.

Паглядыце, мае даражэнькія, ці ж гэта не скандал! Хто накруціў многа, ён не вінаваты, а калі ты спатыкнешся на малым каменьчыку, то цябе пасадзяць. Вось хаця б план Бальцэровіча — усе прызнаюць яго вельмі кепскім, але надалей яго ўсе выпаўняюць.

Падумайце, Дзядзька Захар, а можа мы разам заложым суполку?

М. ЛУК'ЯНЮК

## ЯК ГЭТА СТАЛАСЯ, ШТО ТЭЛЕФОН ЁСЦЬ, А НАВАТ ЯГО НЯМА?

Адкажу на гэтае пытанне, пастаўленае рэдакцыяй у 6 нумары „Нівы", так:

У вёсцы Бялкі (Нараўская гміна), пакуль што знайшоўся толькі адзін гаспадар ахвотны мець „так дарагую мэблю, як тэлефон" у сваёй хаце. Патрэбна канкурэнцыя патрабуючых. Раней спадар Кастусь адмовіўся прыняць на ўласнасць гэтую „мэблю" ў падарунак варты 3 мільёны зл. Можа баяўся ўдару маланкі ў тэлефонныя драты? У той час тэлефон прыняў да сябе ў краму спадар Раман, які забавязаўся зрабіць яго даступным жыхарам вёскі, аднак гэта не выйшла. Але цяпер, як відаць, запатрабаванне на тэлефон у Бялках узрастае. І гэта вельмі добра, бо будзе ён у доме кожнага жыхара вёскі, які складзе адпаведны заказ гміннаму праўленню. Тэлефон можа быць нават у кожнай хаце, калі людзі захочуць, так як напрыклад у вёсцы Іванкі ці іншых. Хацеў бы аднак паінфармаваць жыхароў Бялкоў, што ўсе справы г. зв. „тэлефанізацыі", уключна з цэнамі за паслугу, вядзе „Telekomunikacja Polska SA". Толькі пра тэлефон.

Што аднак адносіцца чытання „Нівы" ад дошкі да дошкі, то пэўна вынікае гэта з лозунгу, які ўбіўся ў галаву: „Толькі с... і лянівы не чытае сёння „Ніву". Можа і штосьць перакруціў!?

А з пашанай паміж намі так часта бывае, як у нівакамп'ютэрнай справе.

З пашанай
ЯН ТАПАЛЯНСКІ
войт гміны Нарва

## РАСЦЕ НАШ ДОМ...

... матэрыяльнай і духоўнай культуры ў Гайнаўцы. У Беларускім музеі закончылі пабудову пяці выставачных - для паасобных экспазіцыяў - залаў. Адбыліся першыя культурна-асветныя мерапрыемствы ў канферэнцыйным зале, між іншым навагоднія ёлкі і балы, дэкламатарскія конкурсы, а таксама дэманструюцца ўжо кінафільмы. Нядаўна здалі ў карыстанне дваццаць начлежных пакояў. У другім квартале бягучага года будуць здадзены ў карыстанне бібліятэка і чытальня, а таксама бар з кавярняй.

З вялікай ахвярнай дапамогай пры пабудове музея прыйшлі між іншым **Ян Даніловіч** з Капітаншчыны /Нараўчанская гміна/ і **Мікалай Садоўскі** з Гайнаўкі. Першы з іх зрабіў спецыяльныя ясянёвыя дзверы для галоўнага ўваходу, а другі - усе элементы дэкаратыўнай драўлянай балюстрады. Яшчэ адзін са сталяроў зрабіў паркет. Зразумела, майстры перадалі спомненае абсталяванне бясплатна. А вартасць, для прыкладу, дзвярэй - 6 мільёнаў злотых, а балюстрады - 5 мільёнаў.

/яц/

## ЖАНДАР, ЦІ ВЫЗВАЛІЦЕЛЬ?

Вельмі трывожаць мяне весткі з былой Югаславіі, дзе на ўвесь мах ідзе нацыянальная вайна. Нацыянальныя змаганні былі, ёсць і будуць, але тут яны дасягнулі апагея. Асабліва трывожыць мяне тое, што ўся прапаганда скідае віну на сербаў - раўняе іх з найгоршымі забойцамі, горшымі яшчэ за гітлераўцаў. Пішацца ды гаворыцца пра іхнія гвалты, забойствы і грабяжы над харватамі і мусульманамі ў Босніі і Герцагавіне. Ніхто аднак ні словам не заікнецца пра харватаў і іхнія злачынствы. Выходзіць, што яны анёлы і святыя. Але гэта толькі таму, што харваты каталікі, а сербы - праваслаўныя. І справе канец. З гісторыі аднак ведаем, што ў час гітлераўскай акупацыі менавіта харваты праславіліся сваімі злачынствамі ды загубілі сотні тысяч сербаў. Ну, а цяпер сербы ім часткова аддалі.

Трывожыць мяне і тое, што заходнія саюзнікі /ЗША, Англія, Францыя/ пад шапкаю ААН хочуць свой нос усунуць у югаслаўскі канфлікт ды вызваліць харватаў і мусульман ад прыгнёту нікчэмных сербаў. Пакуль аднак баяцца пасылаць туды сваіх салдат, бо ведаюць жа, што югаславы ў адкрытым полі дадуць бобу інтэрвентам. Немцы і сёння памятаюць югаслаўскіх партызан з апошняй вайны. Амерыканскія вызваліцелі не рвуцца ў бой. Гэта ім не Самалія. Але паверце мне, што ўсё вісіць на валаску. Для амерыканцаў не трэба пасылаць салдат - тэхніка ўсё за іх зробіць. І гэта толькі таму, што сербы не каталікі. Вось бяда. Калі б імі былі, ніхто іх не чапаў бы. Хіба памятаем, як два гады таму прэзідэнт Буш даў загад вызваліць Кувейт. Якое гэта было вызваленне? Амерыканцы вызвалілі для сябе кувейцкую нафту, якую хацеў вырваць для сябе Садам Хусейн ды дулю паказаць амерыканцам. Буш гэтага не мог падараваць. А што зрабіў ён з Іракам, то мы ўжо дасканала ведаем. Амерыка ўсё паказвае свету сваю сілу і старшынства ў свеце. Садам Хусейн аднак не ўпаў перад ёю на калені, як гэта зрабілі Ельцын, Валэнса і іншыя. Вызваліцелі тлумачаць, што Ірак небяспечны, бо мае хімічную зброю ды імкнецца сканструяваць яшчэ атамную. А чаму Ізраілю ўсё можна - захапіў чужыя тэрыторыі ў 1967 г., а атамнай зброі мае хоць ты адбаўляй. ЗША маўчаць, усё добра.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## СКІНЫ

У лістападзе 1992 г. група скінаў напала на сядзібу ГП БГКТ пры вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку. Хто такі скіны і чаму яны заатакавалі менавіта беларускі аб'ект? Каб спрабаваць адказаць на гэтае пытанне, заглянуў я ў нядаўна выдадзены „Mały słownik subkultur młodzieżowych" Міраслава Пэнчака (выдавецтва Semper, Варшава 1992), у якім скінам прысвечаны тры старонкі тэксту. Прыводжу кароткі змест гэтых старонак.

Скіны (анг. skins, skinheads — шкурагаловыя) паявіліся ўпершыню ў Англіі ў 1966 годзе. Пачаткова выводзіліся яны з рабочага асяроддзя, а іх выгляд і паводзіны падкрэслівалі „пралетарскае радаслоўе". Цяжкі абутак, джынсы, вайсковыя курткі і кароткая прычоска (або і зусім выбрытыя галовы) мелі сімвалізаваць пастаянную гатоўнасць змагацца з „чужымі", пры чым „чужы" гэта быў пераважна той, хто стаяў вышэй у сацыяльнай іерархіі, а не „чужы этнічна". Пачаткова скіны нават захапляліся культурай чорных імігрантаў з Караібскіх астравоў, пасля аднак, калі ўраджэнцы Ямайкі пачалі замыкацца толькі ў сваім асяроддзі, не жадаючы там белых, змяніўся напрамак актыўнасці скінаў, хаця захапленне „чорнай" музыкай, асабліва „reggae", жыло далей. У палавіне сямідзесятых гадоў скіны дзеляцца на дзве групы: нацыяналістычную і анархістычную, захоўваючы аднак варожасць і агрэсіўнасць да чужых. Месцам боек становяцца залы рокавых канцэртаў і футбольныя стадыёны. У канцы сямідзесятых гадоў рух скінаў пачынае пранікаць з Англіі і на еўрапейскі кантынент: у Галандыю, Бельгію, Францыю, Нямеччыну, Скандынавію. У Польшчы скіны паяўляюцца недзе ў 1982-83 гадах на вуліцах Варшавы, Гданьска, Вроцлава, дзе праводзяць г. зв. „задымы". Польскія скіны знаходзяць ідэалагічную апору ў крайнім нацыяналізме і фашызме. Погляды іхнія, якія цяжка скласці ў кампактную ідэалогію, зводзяцца да расізму, шавінізму, культу сілы і гвалту.

Так пра скінаў піша М. Пэнчак у згаданым слоўніку. З прыведзенага апісання вынікае, што скіны гэта другарадныя групкі пераважна маладых людзей, якія не маючы акрэсленага занятку, шукаюць аказій для боек, каб толькі нашумець. Так ёсць на Захадзе Еўропы, так ёсць і ў Польшчы. І здавалася б, што Беласток, гэта не выключэнне: тутэйшыя скіны абкінулі бутэлькамі будынак „чужых". Ды вось знайшоўся чалавек, які гэты выбрык скінаў перанёс на цэлую нацыю, мовай якой яны паслугоўваліся: абвясціў ён 7 лютага ў радыёперадачы „Пад знакам Пагоні", што сядзібу БГКТ заатакавалі палякі. Не ведаю, на якой падставе ён гэта сцвердзіў, бо, здаецца, нікога з іх ён пра іхнюю нацыянальнасць не распытваў; тое, што яны крычалі на польскай мове зусім не абазначае, што другія нацыі гэткай мовы не ведаюць, напрыклад, „нашыя хлопцы". А калі б гэта і былі палякі, дык нельга іх паводзіны пераносіць на цэлую нацыю. Я сам каля дваццаці гадоў пражыў сярод этнічных палякаў, ніколі не скрываючы сваёй нацыянальнасці, і не магу прыпомніць, каб у іхніх паводзінах сустракалася нешта падобнае на паводзіны скінаў, у тым ліку і да „чужых". Зрэшты, хто не верыць, хай пойдзе на базар. Здаецца мне, што прамінентная асоба, якая пусціла такое адкрыццё ў эфір, або не ведае, што гаворыць, або і ведае. Так ці іначай, тое, што пачулі многія радыёслухачы ў лютаўскую нядзельную раніцу, цяжка не назваць правакацыяй. У час сацыяльных і нацыянальных непакояў у нашай частцы свету такая заява гучыць як абуджэнне ліха, калі яно спіць ціха. Добра было б, каб гэты беларускамоўны рытар сваімі „мудрасцямі" дзяліўся з даверанымі кумам у адлеглай хатцы, а не пхаўся да публічнага мікрафона. А можа ён хоча, каб пад яго вокнамі з'явілася болей сур'ёзная, чым скіны, фармацыя.

**А. ВЯРБІЦКІ**

### ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**ШАНОЎНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!**

Чытаю нашу „Ніву" ад яе пачаткаў. Здалёку з зацікаўленнем і надзеяй успрымаю вашы выказванні адносна больш выразнага асветніцкага напрамку тыднёвіка. Я ўпэўнены, што кожная канкрэтная праява арганічнай працы ў гэтай галіне больш вартасная, чым усе галашэнні ці прызывы да дзеяння. Таму хачу звярнуцца да Вас, настаўніка, з прапановай вельмі канкрэтнай і, як здаецца, не пазбаўленай нейкага стратэгічнага сэнсу.

Справа ў тым, што будучы ва „ўнутранай эміграцыі" вельмі адчуваю голад беларускага друкаванага слова. Даходзяць з Беларусі весткі аб фундаментальных для нашай культуры навуковых выданнях, рэпрынтах, гістарычных і энцыклапедычных апрацоўках, слоўніках, мастацкіх альбомах... Усё гэта недаступна мне ў маім кутку Польшчы і, як здаецца, у Вашай дыяспары таксама. З другога боку тыя ж выдавецтвы скардзяцца на вельмі малыя заказы гандлёвых устаноў.

Балюча таксама чытаць, што дзеці ў Рыбалах кідаюць вывучаць бацькоўскую мову. Сярод прычын, як ведаеце, і слабая свядомасць спадчыны, і невялікая практычная прыдатнасць мовы (не для самой жа „Нівы" яе вучыць!), і недахоп навыкаў чытання, і нястача атракцыйных тэкстаў ды метадычных дапаможнікаў, і бездапаможнае становішча пакінутых самім сабе настаўнікаў.

Разлічваць жа трэба толькі на саміх сябе. Таму прапаную стварыць пры „Ніве" суполку ці клуб цікавай беларускамоўнай кнігі. Кожны супольнік уплачваў бы ў год, напрыклад, 500 тысяч злотых. Гэты ўзнос даваў бы яму права выбраць сабе 20 кніг (каля 25 тыс. зл. за кнігу). Я перакананы, што скора набярэцца з 20 аматараў добрай кнігі. Такім чынам паўстаў бы значны кніжны капітал: 500000 зл. x 20 = 10.000000 зл. Будзе гэта каля 625 долараў або 312500 рублёў. Пры рознічнай цане кнігі 50 рублёў, за гэтыя грошы можна набыць аж **6250 кніг!** Пасля перасылкі кніг сябрам клуба (20 x 20 = 400) астанецца яшчэ 5850 экземпляраў, якія клуб перадае бясплатна школьным бібліятэкам адпаведна да ліку навучэнцаў беларускай мовы. Атрымаецца больш за паўкнігі на вучня. Школа ж у Рыбалах (на 28 вучняў) атрымала б 15 новых, пахучых свежай фарбай кніжак!

Можна было б клуб зрабіць больш эксклюзіўным. Калі Вы асабіста ўключыцеся ў арганізацыю гэтай суполкі, я наскроб бы і 1.000000 зл. Капітал можна павялічыць прадаючы (кніга-поштай) на цане меншай за цэны польскіх кніг (20—30 тыс.). Спрыяе гэтай справе мабільнасць Вашых супрацоўнікаў, вопыт у дабыванні кніг на ўзнагароды, частыя наведванні розных чыноўнікаў у Менску, прыхільнасць іншых польска-беларускіх суполак. Нельга не спрабаваць!

З настаўніцкім прывітаннем
**ІЛІРЫК ВАРАЎКА**

**Ад рэдакцыі:**

Паважаны спадар Ілірык, Ваша прапанова мне вельмі падабаецца і мы гатовы стварыць фармальныя асновы для дзейнасці такога клуба. Баюся толькі аднаго: ці знойдуцца такія супольнікі, пра якіх Вы ўспамінаеце. Магчыма, што Ваш артыкул выкліча нейкі водгук у беларускім асяроддзі і тады не будзе праблемаў, каб ажыццявіць гэту ідэю.

Рыхтуецца да друку ў Менску „Гісторыя Беларусі". Наконт кніжкі плывуць адтуль вельмі пазітыўныя выказванні. Была б гэта першая „гісторыя Беларусі", напісаная і выдадзеная самімі беларусамі, без фальшаў і ідэалагічных ідыятызмаў. Рэдакцыя плануе ўзяць у „коміс" некалькі сот экземпляраў і даць магчымасць беларусам у Польшчы пазнаёміцца з гісторыяй свайго народа. Калі б нам удалося, гэта быў бы нейкі пачатак прапагандавання беларускай навуковай ды іншай літаратуры сярод беларусаў, якія жывуць у Польшчы.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /6/

Якая правінцыя, такая і дзяржава /сталіцы ўсюды прыгожыя/. А якая сельская гаспадарка, такая і ўся эканоміка. З гэтым, як з матэматычным раўнаннем. Беласток, напрыклад, не расквітнее ў зруйнаваным ваяводстве; застанецца замурзаным крэўным Варшавы. У адрозненні ад Польшчы, у Беларусі тая бяда, што мус ёй пазбыцца каланіяльнай рускамоўнасці. Дэрусіфікавацца як цэльна ўдакладніў прэзідэнт Шушкевіч.

Паліцыянта ў тым жа Ракаве ўбачыў я раз, мімаходзь. Далёка яму да бойкага функцыянера, якім павінен быць. У вечаровай радыёперадачы чыноўны афіцэр наракаў: мала ахвотных на службу ў міліцыі /заробкі!/, старасвецкая ў яе тэхніка /у бандытаў заходненямецкая/, і традыцыйна нізкая прафесійнасць /негатыўная селекцыя/. Можна не мець добрай арміі, але - не кепскую паліцыю! Безабаронны штодня грамадзянін не шануе тады дзяржаву. І яна пераўтвараецца ў папяровую.

У Ракаве, як гэта зазвычай на беларускім захадзе, узвышаюцца царква і касцёл. Па іх выглядзе відаць, што каталікам даводзілася цяжэй як падазронаму элементу. У прыкасцелле інсталявалі - "парцейныя" хамуты - нейкую гаспадарчую базу?.. Абавязкова не забыўшыся пры тым паставіць двухкабінны нужнік блізу галоўнага ўваходу ў святыню!

Польская прысутнасць на тых землях - істотная. Гістарычна няўхільная. У трактоўцы яе Варшава і Менск дапускаюць, аднак, тую ж памылку: адны рэпаланізуюць, другія дэпаланізуюць. Тым часам, карэнныя інтарэсы абодвух дзяржаваў не ў змаганні за душы. Існаванне мнагалікай іхняй меншасці - як і беларускай у Беласточчыне - гэта аб'ектыўна дабрадзейны фактар дзеля ўзаемнага супрацоўніцтва і супольнага ўваходу ў Еўропу. Чаго баяцца? Як і мы тут, польскія беларусы, так і яны там, беларускія палякі, проста скураю адчуваюць, што іх лёсам ёсць Беларусь, - як нашым Польшча, - і нікуды ад яе ім не падзецца.

У Польшчу ж не пераедзеш адтуль, бо і каму ты будзеш тут патрэбен!?

Жывучы ў "Ісьлачы", акунуўшыся з галавою ў тубыльны натоўп, найпершае адчуванне надзвычай прыкрае і адзіная назва яму - адчужанасць. Не толькі цывілізацыйна-культурнага характару. Адсюль менавіта інакшай бачыцца наш Беластоцкі Край. Значэнне яго для цэлай Рэспублікі Беларусь не больш, чым маральнае ў актуальным стане яе справаў. Яны ідэалізуюць нас, так сказаць, патрыятызуюць. Робяць з беластачан заслужаных змагароў за мову і нацыянальнае пачуццё. Не здагадваюцца, што будзь Польшча савецкай рэспублікай, дык чорнай славы "нашы хлопцы" спляжылі б беларушчыну да глыбокай ямы і яшчэ паліцэйскую лятрыну на ёй збілі б з дошак!..

Пакуль сфіналізуецца аднаўленне нацыі, хай хваляць нас, калі ў іх такая патрэба. Дэрусіфікацыя зойме дваццаць гадоў. Я ўжо таго не прычакаю.

Дапусцім непапраўную памылку, не выпрацаваўшы за гэты час уласнай палітыкі. Духоўная загледжанасць у Рэспубліку Беларусь нічога карыснага не дасць нашаму грамадству. Яно непазбежна знікне з гістарычнай арэны, калі не даб'емся вышэйшага ўзроўню свайго існавання. Менавіта, як неабходнага кампанента ў перспектыўных польска-беларускіх зносінах. Каб не перастаць быць патрэбнымі ў дзяржаўных эшалонах улады, бо пакуль што глядзяць на нас, быццам на клапотную "пятую калону". Не можам стацца заложнікамі міждзяржаўнай палітыкі, але яе - саўтарамі!

У супрацыўным выпадку пра беларусаў Беласточчыны калісьці дакладна ўсе забудуць.

З часам - і мы самі пра сябе.

*/Працяг будзе/*

# ВЯЛІКАПОСНЫЯ РОЗДУМЫ АЙЦА КАНСТАНЦІНА

Для пераважнай часткі хрысціян, Вялікі Пост, асабліва для праваслаўных - гэта асаблівы перыяд у літургічным годзе. Напярэдадні Посту Царква адзначае "нядзелю выбачэння правінаў". У гэты дзень чытаецца ўрывак з 6-га раздзелу Евангелля паводле Мацвея /6, 14-21/, у якім напамінаецца, што "калі не будзеце дароўваць людзям правіннасцяў іх, то і Айцец ваш не даруе вам вашых правіннасцяў". Інакш кажучы, прыступаючы да справы ўласнага ўдасканалення, нельга не пачаць яго ад прымірэння са сваімі бліжнімі. Гэтак у старажытнасці рабілі манахі, якія накіроўваючыся на час Посту ў свае пустэльні, уладжвалі паміж сабою ўсемагчымыя непаразуменні. У шматлікіх цэрквах да сённяшняга дня практыкуецца спецыяльны абрад даравання ўзаемных правіннасцяў паміж святарамі і вернікамі. Такім чынам Царква напамінае ў гэты дзень, што "хто жыве ў разладзе з іншымі людзьмі, не можа быць у згодзе з Богам" /Св. Іаан Залатавусны/. Евангелле напамінае таксама, што Пост - гэта не фармальны рытуал, не проста традыцыя, але павінен ён быць унутранай патрэбай чалавека.

Напярэдадні Вялікага Посту Царква ўспамінае "першародны грэх" чалавецтва. Гэтая духоўная катастрофа спасцігла людзей на заранку іхняга існавання і сталася звышчасовай падзеяй. Кожны з нас нясе на сабе "Адамаў грэх", цёмны бунт своевольства і супраціву ў адносінах да свайго Тварца. Людзі звязаны паміж сабою, як часткі аднаго арганізма Адама, як яго нашчадкі. Спад адказнасці за Адамава багаадступства можа шмат каму здавацца несправядлівым, але штодзень паўлічваем ягоны грэх. Царква падкрэслівае гэтую крыніцу нашай недасканаласці і сапсаванасці натуры. Узнесены па-над прыродай і ўсім стварэннем чалавек здрадзіў свайму пакліканню і падпаў пад уладу стыхіяў. Цяпер ён толькі абмежавана і знешне можа панаваць над імі, ці то праз веды, ці навуку, аднак ключ да сапраўднай перамогі духа крыецца ў нутры чалавечай істоты. У прыродзе таксама назіраецца недасканаласць; у ёй дамінуе закон барацьбы за быт і выжыванне праз пажыранне слабейшага. Адмаўляючыся ад мясной ежы, чалавек узвышаецца над патрэбнасцямі сваёй звярынай натуры, ставячы дух вышэй за цела. Якраз у перамозе душы над целам, у пераадоленні пажадлівасцяў і інстынктаў, дзеля большай прасторы для духа, заключаецца галоўны сэнс Посту.

Няма патрэбы нікога пераконваць, што памяркоўнасць карысная нават з медычнага пункту гледжання. Выдатны мюнхенскі прафесар Моэзэр, на падставе шматгадовых доследаў сцвердзіў, што "найбольш людзей хварэе з прычыны празмернага харчавання. Пост і памяркоўнасць у ежы - найлепшы рэцэпт на здароўе і доўгавечнасць". Ведаючы пра гэта найбольш прагрэсіўная медыцына карыстаецца дыэтамі і нават галадоўкамі ў якасці праверанага сродка супраць розных хваробаў. Спартсмены гадамі адмаўляюцца ад шмат чаго дзеля ўтрымання адпаведнай формы і перамогі ў спаборніцтве. Царква таксама напамінае, што "няма слаўнейшай перамогі, як перамагчы самога сябе" /Св. Ціхан Задонскі/, інакш кажучы, калі пераадолець свае дрэнныя схільнасці. Перасцярагае таксама, што "ад тлустага чэрава не бывае тонкага розуму" /Св. Іаан Залатавусны/ і што "колькі аднімем у цела, гэтулькі дададзім душы" /Св. Васіль Вялікі/.

Пост міжвольна асацыюецца з харчаваннем, бо змена ежы ўспрымаецца больш рэальна чымсьці зменлівыя, няўлоўныя станы душы. Тым не менш, гэта наша "дзесяціна", якую паводле старазапаветнага прыкладу, мы ахвяроўваем Богу. Адлічыўшы ўсе "няпосныя" дні, суботы і нядзелі, атрымоўваем дакладна 36,5 дня, дзесятую частку года. Праз большасць часу жывем быццам "блудныя сыны", міжвольна адхіляемся ў бок сваіх запаветаў, рупячыся перш за ўсё пра "надзённы хлеб". Для хрысціяніна, які акружаны "свецкай атмасферай", якая пранізвае сваёй марнасцю нашы звычаі ды імкненні - гэта вяртанне "ў бацькоўскі дом", дзе ягонае сапраўднае месца.

Калі б не гэтак глыбей разумець сэнс Посту, пры сучаснай дарагавізне, пры збядненні пераважнай часткі грамадства, улічваючы галодныя пенсіі - гаварыць пра пост, які самым сабою вымушаны - было б здзекам. Людзі заўсёды турбуюцца перш за ўсё пра тое, што палажыць у гаршчок, але ёсць і іншы, адвечны дэфіцыт, зусім не дарагадны. Нам патрэбнае ўзаемнае прабачэнне і прымірэнне, без якіх дарэмныя ўсе паклоны і выцірание каленнямі царкоўных паркетаў. Пра гэтае і напамінае Царква падчас Вялікага Посту.

* * *

У першую нядзелю Вялікага Посту чытаецца ўрывак з першага раздзелу Евангелля паводле Іаана. Гаворыцца ў ім пра пакліканне двух наступных, пасля Андрэя і Пятра, апосталаў - Філіпа і Натанаіла. У адказ на сведчанне Філіпа: "Мы знайшлі Таго, пра каго пісаў Майсей і прарокі" Натанаіл скептычна заявіў: "Ці ж можа быць што добрае з Назарэту?" Тады Філіп не прабуючы пераконваць сказаў: "Ідзі ды паглядзі". "Ісус угледзеўшы Натанаіла, як ішоў да Яго, кажа аб ім: вось сапраўдны ізраільцянін, у якім няма няшчырасці. Натанаіл кажа Яму: скуль ведаеш мяне. Ісус у адказ сказаў яму: перш чым Філіп паклікаў цябе, я бачыў цябе, як ты быў пад смакоўніцаю". Хаця Натанаіл не пазбыўся сумненняў, аднак прыйшоў да Ісуса са шчырым намерам знайсці праўду. Ягонае жаданне здзейснілася і ён з верай усклікнуў: "Раввi, Ты Сын Божы! Ты цар Ізраіляў!"

Калі б Натанаіл спасылаўся на сведчанне рабінаў, ніколі не знайшоў бы шляху да Ісуса. Ён стаўся вучнем і апосталам толькі таму, што сам паглядзеў і зразумеў. Прадузятасць шмат каму ў наш час не дазваляе пазнаць праўду. Іншыя выбралі б, каб самі "пайшлі і паглядзелі". Спасылаючыся на людскія аўтарытэты, у якіх часта нячыстыя мэты, шмат хто насцярожана або нават варожа ставіцца да таго, каго ў сапраўднасці не ведае. Многія абыякава або з пагардай адносяцца да Біблії ніколі яе не прачытаўшы, да чалавека, якога ніколі не сустрэлі, да краіны, якой ніколі не бачылі...

Пошукі праўды асабліва суадносяцца да заўтрашняга дня. У праваслаўнай царкве ён называецца "Нядзеляй Праваслаўя", "днём перамогі прававерʼя". Гэты дзень устаноўлены ў памяць пераадолення ўсяленскай, непадзеленай яшчэ тады, Царквою, іканаборчай ерасі. У 787-м годзе, на вуліцах Канстанцінопаля адбылася шматлюдная маніфестацыя прыхільнікаў культу іконаў. Іканаборства, якое працягвалася звыш ста гадоў падзяліла грамадства; даходзіла да ссылак і насілля, прычым супраць шанавання іконаў былі нават іерархі і імператары. Пазбаўлены патрыяршага трону патрыярх Герман рашуча заявіў імператару: "Без пастановаў Сабора, у справах веры нічога не можаш змяніць". Папа Рыгор II таксама супрацівіўся імператару Лявону Ізаўрыйцу: "Царкоўныя дагматы - не твая справа... пакінь свае шаленства".

Дзень "перамогі прававерʼя" напамінае не толькі перамогу над іканаборствам, але дзесянні ўсіх папярэдніх Бабораў, якія абаранілі і сфармулявалі догматы веры. Усе вялікія ерасі Усходу выступалі супраць фундаментальнай праўды-навукі пра багачалавецтва Хрыста. Арый цвердзіў, што ён створаны, толькі падобны да Бога; нестарʼяне адрознівалі ў Хрысце чалавека і Логаса, які нібыта сышоў на Ісуса падчас хрышчэння. Манафіты і манафэліты, наадварот, не прызнавалі чалавечнасці Хрыста. Яны цвердзілі, што боскі элемент паглынуў у ім усё зямное. І ўрэшце іканаборцы забаранялі рабіць выявы Багачалавека, адмаўляючыся такім чынам ад веры ў рэальнасць Вачалавечання. Аўтарамі ерасей неадночы былі выдатныя тэолагі, аскеты і царкоўныя іерархі, якіх нельга за гэта асуджаць. Тады, яны проста гэтак думалі. Яны памыляліся бо шукалі, думалі, хацелі назваць яшчэ неназванае і сфармуляваць праўды, якія не паддаюцца чалавечай фармулёўцы.

Пры нашай цяперашняй абыякавасці для нюансаў тэалогіі нам цяжка зразумець гэтае шматвяковае змаганне за чысціню веры, гэтае адстойванне кожнага слова, кожнай коскі ў сказе. Цяпер маем гатовую навуку, якой не даражым, бо і недастаткова яе ведаем. З другарадных меркаванняў шмат хто некалькі разоў меняў веравызнанне ці то пабяжаўшы за спадчынай, ці разлічваючы на іншыя прэрагатывы. Быў аднак час, калі людзі гатовы былі загінуць з рук мусульманаў, чымсьці пагадзіцца на змену нават аднаго слова ў Сімвале Веры, каб атрымаць дапамогу з Захаду. Нашы продкі таксама неадночы стаялі перад драматычным выбарам. Для сякой-такой карʼеры, яшчэ ў міжваенны перыяд трэба было адмовіцца ад сваёй веры. Пераносілі яны здзек і прыніжэнне, жылі з кляймом непаўнавартаснасці, духоўнага дысідэнцтва, аднак таму, што лічылі яе сапраўды вартаснай - засталіся вернымі. Яны разумелі, што спадчына, якая ім дасталася - заплачаная не толькі цаною шматвяковых пошукаў праўды, але і цаною неверагодных ахвяраў і пакутаў іхніх продкаў.

У другую нядзелю Вялікага Посту Царква напамінае нам пра свой слаўны але і шматпакутны шлях, каб ўсе мы лепш усвядомілі што маем і ўсвядоміўшы - больш шанавалі.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## ВЯЛІКАПОСНЫЯ НЯДЗЕЛІ

### І НЯДЗЕЛЯ — 7 САКАВІКА — СВЯТА ПРАВАСЛАЎЯ

У гэты дзень успамінаем перамогу праваслаўя над шматлікімі ерасямі. Гэта свята было ўстаноўлена ў 842 г. на Памесным Саборы ў Канстанцінопалі пасля канчатковай перамогі над ерассю іканаборства. Вялікія заслугі ў яго ўстанаўленне палажыла імператрыца Фядора, жонка імператара Феафіла, іканаборца. Пасля смерці мужа Фядора пачала паступова аднаўляць іконапакланенне. Гэтая нядзеля не называецца святам іконапаклонення, але **СВЯТАМ ПРАВАСЛАЎЯ**, бо менш-больш у часе перамогі над іканаборствам Царква ў барацьбе з рознымі ерасямі канчаткова высветліла і ўстанавіла ў канонах Сямі Усяленскіх Сабораў праваслаўную хрысціянскую навуку. Не абазначае гэта аднак, што пасля гэтага не было іншых фальшывых навучанняў, аднак усе яны былі асуджаны і высветлены ў пастановах Усяленскіх Сабораў.

У гэты дзень (пераважна пад канец Літургіі) пасярэдзіне царквы, перад іконамі Збавіцеля і Багародзіцы адбываецца акт „Свята праваслаўя". Пасля „Сімвала веры" чытаюцца словы, якія ўслаўляюць Праваслаўе як адзінае прававерное веравызнанне: „Сия вера апостольская, сия вера отеческая, сия вера православная, сия вера вселенную утверди..." Далей паказваюцца асновы нашай веры — Усяленскія саборы, Традыцыя Святых, працы Айцоў Царквы, усё згоднае з боскім Абʼяўленнем. У далейшым абвяшчаецца анафема з дванаццаці частак, у якіх праклінаюцца ўсе тыя, хто прытрымоўваецца розных ерасей і фальшывых навук, чаргова пералічваючы іх і канчаючы трайным паўтарэннем слова „анафема". Пасля гэтага ўпамінаецца ўсіх, якія працавалі дзеля дабра Праваслаўя прапаведваннем у мове і ў пісьме, сваім жыццём, а таксама тых, якія загінулі за веру і памерлі ў прававерной веры і спяваецца ім „Вечная память". Затым упамінаецца ўсіх тых, якія тут на зямлі ў ваяўнічай Царкве клапоцяцца дзеля дабра Праваслаўя і спяваецца ім „Многая лета". Гэтым самым Царква моліцца пра далейшае ўмацаванне вернікаў і пра вяртанне тых, якія зблудзілі і адыйшлі ад *прававерной веры праваслаўнай.*

У пятніцу першага тыдня Вялікага Посту, адбываецца акт пасвячэння каліва (варанай пшаніцы з мёдам і бакалеямі) на памяць цуду святога Фёдара Цірана, а ў суботу адзначаецца памяць гэтага вялікамучаніка (памёр каля 306 г.).

*(працяг будзе)*
С.Н.

## НАШЫ КАРАНІ

### II. ТАЯМНІЦА КАРАЛЕЎСКАГА СЭРЦА

У апошнія гады панавання караля Казіміра Ягелончыка адкрыты наступ на праваслаўе як быццам бы крыху суцішыўся. Некаторыя гісторыкі, у іх ліку Яўген Неміроўскі /у кнізе "Франциск Скорина", Мн, 1990, стар. 89/, знаўца жыцця ў XV-XVI ст.ст. на Беларусі і ў Польшчы, лічаць, што гэтае палягчэнне праваслаўнай Царкве наступіла пасля смерці каралевіча Казіміра ў 1480 годзе. Каралевіч хваравіта ненавідзеў "схізматыкаў", гэта значыць праваслаўных. Ён моцна ўздзейнічаў на бацьку-караля, і гэтаму націску прыпісваецца каралеўскі наказ з 1480 г., які забараняў будаваць і аднаўляць у Вільні і Віцебску /у сталіцы дзяржавы і ў радавым "гняздзе" Ягелонаў/ праваслаўныя храмы. За прыкладам гэтых гарадоў пайшлі каталіцкія каштэляны і другія гораданачальнікі іншых мясцовасцей на Беларусі. Варта тут прыгадаць, што каталіцкі касцёл узвёў каралевіча Казіміра ў лік святых і прызначыў каталіцкім патронам Вільні і Вялікага княства Літоўскага. Кананізацыя наступіла ў 1527 г.

Нягледзячы на ўяўнае зацішша, праваслаўныя не адчувалі сябе ўпэўнена. Гэта відаць вось з такога прыкладу. У 1488 г. памёр мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Сімяон, і праваслаўныя выхадайнічалі ў караля дазвол выбраць сабе кандыдата ў мітрапаліты. Выбары моцна зацягнуліся, і то не таму, што не было духоўных асобаў, годных гэтай надта адказнай і адначасова вельмі прэстыжнай духовай і грамадзянскай функцыі. Такіх дастойных духовых дзеячоў было нямала, але ўсе яны як толькі змаглі, так бараніліся, каб не трапіць пад каралеўскі прымус здрадзіць праваслаўю, і адкрыта ці патаемна перайсці ва унію, не хацелі стаць адступнікамі ад благачэсця. Урэшце неяк упрасілі ды ўблагалі старэнькага архіепіскапа полацкага Іону. Уладыка доўга не згаджаўся, цвердзячы, што ён нягодны такога гонару, але "ўмолены просьбамі князёў, усяго духавенства і людства ды заах-

☞ *Працяг на стар. 6*

### РАССПЯВАНЫЯ СЕМ'І

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры кожны год у лютым арганізуе Сустрэчы музыкальных сем'яў, пражываючых на Беласточчыне. У мінулым годзе ў Сакольскім асяродку культуры сустрэлася восем такіх сем'яў, а ў бягучым годзе — васемнаццаць (56 чалавек) з васьмі гмінаў. Найбольш прыехала з Дуброўшчыны і Сакольшчыны.

Упершыню прыехалі сем'і: Міцэвічаў з вёскі Дашы (Кляшчэлеўская гміна) — былі гэта Валянціна, Гражына, Ніна і Таіса; ды Дацэвічаў — Надзея Дацэвіч, Марыя Кярковіч, Барбара Ярашук і Барбара Шымчук — усе з Мельніка над Бугам. Сям'я Міцэвічаў — маці і дочкі, праспявалі чатыры песні, у тым ліку адну на біс. У іх прыгожым, зладжаным, прыемным для вуха выкананні прагучэлі песні: „Гарэла сосна, палала", „Цыганачка, ці любіш ты мяне?", „У саду гуляла" ды пра родную старонку — „... Дзе б ты не пасяліўся" з прыпевам „Бай-люлі". Сям'я Дацэвічаў спявала: „Ой, у вішнёвым саду", „Пусці мяне маці да хлопца, да хаты", „Czemuż się kołyszesz, smutna jarzębino" і „W zielonym sadzie, za żywopłotem".

Астатнія сем'і ігралі і спявалі, або толькі ігралі. Усе выконвалі даўнейшыя і сучасныя модныя і папулярныя мелодыі. У састаў трох музыкальных сем'яў уваходзілі тры пакаленні. Найбольшай такой сям'ёй была сям'я Скутнікаў (сем асоб) з Каліноўкі (Ясянёўская гміна).

Канцэрт-марафон працягваўся чатыры гадзіны, але не быў нудным. Захаплялі гледачоў музычныя рытмы і рэпертуар. Публіка захаплялася цікавым відовішчам. Была такая... сямейная атмасфера.

У арганізацыю сёлетняй — ужо XI — Сустрэчы музыкальных сем'яў уключыліся Беластоцкае музычнае таварыства, Беластоцкі аддзел Таварыства тэатральнай культуры, Мясцовае прадстаўніцтва прафсаюзаў ОПЗЗ і прыватны спонсар Антон Яканчук.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## НАШЫ КАРАНІ

Працяг са стар. 5

вочаны загадам гаспадара", гэта значыць вялікага князя і караля Казіміра, як пісалі самі праваслаўныя ў лісце да патрыярха, - архіепіскап Іона згадзіўся. Аднак і так само пастаўленне ў мітрапаліта цягнулася аж чатыры гады. Ліст патрыярху павёз архімандрыт Слуцкага Троіцкага манастыра Іосіф у 1492 г. У ім праваслаўныя пісалі: "Няхай учыніць Святыня Твая паводле нашае просьбы дзеля нас праследаваных у веры і няхай не запавоіць даць рукой сваёю меч духовы айцу нашаму, каб бараніў нас". Мітрапаліт Іона Глезна пастырстваваў усяго два гады і памёр у 1494 годзе.

Двума гадамі раней сышоў з гэтага свету адзін з найдаўжэй пануючых каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх Казімір Ягелончык. Вядомы польскі пісьменнік Павел Ясяніца пра тое пісаў: "Казімір Ягелончык з мая прабываў у вялікім княстве, цяжка хворы паносам. Манахі-бернардзінцы наралі яму не слухаць лекараў, а лячыцца літоўскім хлебам з мукі грубога памолу і печанамі грушамі. Кароль паслухаў і сапраўды дапамагло, але ненадоўга. Сэрца аслабела, спухлі ногі. Каралеўскі медык, Якуб з Залесся, сказаў адкрыта, што няма ўжо ратунку.

- Значыць, трэба паміраць, - спакойна адказаў кароль.

Закончыў жыццё ў Гародні 7 чэрвеня 1492 года."

Сын праваслаўнага князя Якава-Ягайлы і праваслаўнай княгіні Соф'і Гальшанскай, якія дзеля здабыцця польскай кароны перайшлі ў каталіцызм, быў выхаваны на зацятага каталіцкага манарха і такім заставаўся з першага і да апошняга дня свайго панавання. Вядома, у сваёй дзяржаўнай палітыцы і нават штодзённым жыцці вымушаны быў лічыцца з праваслаўем, таму што пераважная большасць яго падданых была праваслаўнага веравызнання. Аднак яму былі ўласцівы ўсе манеры каталіцкага місіянера, ворага праваслаўя. Але ці поўнасцю перакананага? Мабыць, не цалкам.

Традыцыя падае, што адразу пасля шлюбу /1447 г./ з маладзенькай каралевай Альжбетай здарыўся выпадак, у якім яна цудоўным чынам пазбегла смерці. Адбылося тое якраз у Ільін дзень /20 ліпеня па старому стылю/. Ва ўдзячнасці за шчаслівае выратаванне каралевы Казімір пабудаваў шэсць праваслаўных Свята-Ільінскіх цэркваў на Беларусі: у Бешанковічах, Віцебску, Крычаве, Магілёве, Оршы і Чэрыкаве. Значыць, сам асабіста парушыў Вітаўтаў наказ, каб "праваслаўных цэркваў не прыбаўляць".

Яшчэ болей загадкавы той факт, што грабніцу для сябе і жонкі, гэтак званую сёння Святакрыскую капліцу на Вавелі, Казімір Ягелончык загадаў аздобіць праваслаўнымі фрэскамі. Яны былі выкананы ў 1470 г., на іх "ёсць кцітарскі надпіс, зроблены кірыліцай на старабеларускай мове, што сведчыць пра паходжанне майстроў з Беларусі", - пісала вядомы беларускі мастацтвазнавец Вольга Царашчатава ў "Гісторыі беларускага мастацтва". Ці сапраўды настолькі блізкім сэрцу караля і каралевы было праваслаўнае беларускае мастацтва, калі яны пажадалі на вечны спачын легчы пад скляпеннямі, аздобленымі праваслаўным іканапісам?

Усіх нашых чытачоў, асабліва моладзь, горача заахвочваем пры наведванні Кракава не абмінаць Святакрыскай капліцы на Вавелі і хаця б цераз дзвярныя краты зазірнуць у яе і палюбавацца цудоўным фрэскавым роспісам беларускіх майстроў з XV стагоддзя і ўвачавідкі пераканацца асабіста, што невыпадкова каралеўская пара пажадала спачыць у засені гэтых цудоўных твораў.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

### НАШЫ "ВУЧЫЦЕЛІ"

Чаму беларуская моладзь не хоча вучыцца сваёй мовы? Чаму раптоўна падае яе прэстыж на Беласточчыне?

А я пытаюся - ад каго і дзе моладзь мае браць добры прыклад пашаны да роднага слова? У настаўнікаў? Але ж яны амаль усе гавораць дыялектам сваіх вёсак. А, безумоўна ж, ведаюць, што ёсць літаратурная мова і што ім - інтэлігенцыі, "вучыцелям" - у школе дый у пазашкольных кантактах з людзьмі належала б свяціць навокал прыкладам сваёй высокай прафесійнасці. Аднак, дзе ж там!.. Такой амбіцыі яны не маюць. Ім усё роўна: абы расплыцца ў ананімнасці, у простанароддзі!

Нашыя "вучыцелі" не зацікаўлены таксама тым, каб іх выхаванцы прыгожасць беларускай мовы спасцігалі па кнігах - бо і самі яны, апрача старых падручнікаў, нічога ад дваццаці пяці гадоў не прачыталі і чытаць кніг, на хамскай мове, не будуць. "А нашчо воны! У нас у хаты батькі какш говорат, чым ты ксёнжкі". Або: "То прыватная справа вучняў, ці будуць яны чытаць па-беларуску".

Рашуча адштурхоўваюць ад пекнаты беларускай мовы і некаторыя перадачы ў беларускай радыёпраграме з Беластока. Напрыклад, у чацвер 11 лютага г.г. гаварыў па радыё працаўнік беларускага пасольства ў Варшаве. Божа ж ты мой! Ён збіваўся то на польскі варыянт, то на расейскі. Ніводнага беларускага непакалечанага сказа! І гэта мае быць прадстаўнік беларускай дзяржавы, беларускай нацыі?!

А можа беларуская мова не яго, не іх - нашых "вучыцеляў"?

**Б. Скі**

### НЕМЦЫ АРГАНІЗУЮЦЦА

Заснаваны ў мінулым годзе /2 лістапада/ Саюз згуртаванняў нямецкай меншасці ў Ольштыне мае ўжо свае ўлады. 27 дэлегатаў на першым з'ездзе Саюза, які прайшоў 30 студзеня г.г. сваім старшынёю выбралі Вальтэра Ангрыка - да гэтай пары быў ён старшынёю Згуртавання нямецкай меншасці ў Ольштыне. Яго намеснікамі сталі Герард Ольтэр з Гданьска і Маркус Мураўскі з Торуні.

Саюз гуртуе больш за дзесятак таварыстваў, якія дзейнічаюць у раёне Ольштына, Гданьска і Торуні. Год таму стварылі мы заснавальніцкі камітэт, сказаў Вальтэр Ангрык. Ішло нам пра тое, каб наладзіць супрацоўніцтва ўсіх гэтых таварыстваў у галіне культуры, падтрымкі звычаяў і мовы нямецкай меншасці. Саюз будзе імкнуцца стварыць у Юдытах каля Бартошыц хрысціянскую вёску моладзі, часткаю якой быў бы цэнтр абучэння і адпачынку, дзе праводзіла б свой час польская, нямецкая ці беларуская моладзь. Саюз наладзіў лучнасць з Фондам культуры ў Баварыі, які прызначыў 3,5 мільёна марак дзеля выкупу палаца ў Юдытах, які і будзе цэнтрам гэтага фонду.

Гасцямі з'езда Саюза згуртаванняў нямецкай меншасці быў сакратар пасольства Нямеччыны ў Польшчы Яхім Блейкер ды вядомы нямецкі пісьменнік Ральф Гіядана, які збірае інфармацыі ў сваю кніжку пра людзей, што да 1945 года жылі на Усходняй Прусіі. Героямі яго кнігі будуць не толькі асобы нямецкага паходжання, але і рэпатрыянты з усходніх крэсаў. Жывем побач сябе, сказаў Вальтэр Ангрык, і мы сабе ўзаемна патрэбныя. Пара ўжо засыпаць тыя пропасці, якія нас падзялілі, а ў іх месцы пачаць будаваць масты, якія нас спалучаць. Дзеля гэтага хоча працаваць наш Саюз.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## НА КУРСЕ Ў ГРОДНЕ

У выніку дамоўленасці паміж Куратарыяй асветы і выхавання ў Беластоку і ўпраўленнем народнай адукацыі Гродзенскага аблвыканкама, а таксама дзякуючы аператыўнасці нашай візітатар Тамары Русачык, у горадзе над Нёманам і ў яго вобласці з 30 студзеня да 5 лютага г.г. прабывала адзінаццаць настаўнікаў з Беласточчыны, якія ў школах выкладаюць беларускую мову. Каб не было ніякіх сумненняў, аўтар гэтых радкоў паехаў збіраць матэрыял на навучанню геаграфіі Рэспублікі Беларусь.

На базе Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў была створана магчымасць паглыбіць свае веды, павысіць прафесіянальны ўзровень. Разнастайная, насычаная багатым зместам праграма - гэта заняткі па пытаннях тэорыі мовы, не выкладання, якія правялі выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы, вопытныя настаўнікі-практыкі, гэта наведанне шэрагу школ абласнога цэнтра, абмен думкамі па самому шырокаму колу пытанняў і г.д. Наша прысутнасць у Гродне звярнула на нас пэўную ўвагу мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і тэлебачання.

Наведалі мы сярэднюю школу і літаратурна-краязнаўчы музей у вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна, музей Адама Міцкевіча, руіны замка, дзве школы і дзіцячы садзік у Навагрудку, возера Свіцязь, самую вялікую СШ н-р 24 і самую новую СШ н-р 32 у Гродне, знаёміліся з горадам. Усюды віталі нас па-братэрску ў народным адзенні, караваем, паэтычным словам і з душэўнай адкрытасцю. Урокі ў школах - жывыя, займальныя, кранаючыя сэрцы. Іх тэмы - гэта Айчына, родная мова, наша спадчына, хлеб, мацярынства/"Мілая, дарагая матуля..." - так пачыналі пісаць свае лісты дзеці з чацвёртага беларускамоўнага класа ў адной з наваградскіх школ/.

Бачаныя намі школы багатыя пазакласнымі заняткамі, падчас якіх дзеці ставяць тэатральныя сцэнкі, многа спяваюць, танцуюць народныя танцы, займаюцца ў гуртках народных умельцаў, прываблівае іх увагу краязнаўчая работа, пішуць вершы. Атмасфера ўрокаў уразіла скромнасцю і культурнасцю вучняў /такія ж самыя паводзіны іх і на перапынках/, мудрасцю дзіцячых выказванняў, адданасцю роднай справе і педагагічным майстэрствам настаўнікаў.

Шчырую зайздрасць выклікала эстэтыка школ. На сценах калідораў фрэскі з выявамі слаўтых людзей з мінуўшчыны Беларусі - ад Ефрасінні Полацкай да Уладзіміра Караткевіча, родныя краявіды, у класах-кабінетах стэнды з гуманістычна-патрыятычным зместам.

Дырэктары і настаўнікі прымалі нас багатым застоллем. Былі прамовы, тосты і словы падзякі. У Навагрудку сябры па прафесіі наладзілі банкет, зразумела, з музыкамі. Не маючы асаблівай дасведчанасці ў рыторыцы, не аднаго з нас сітуацыя прымусіла да практыкаванняў у галіне мастацкага, але і шчырага слова. Падчас абеду ў сталовай Навагродскага завода газавай апаратуры абяцаў я дырэктару зрабіць рэкламу ягонаму прадпрыемству ў нашым Беластоцкім Краі. Хачу тады паведаміць, асабліва людзям гаспадарчай ініцыятывы, што самыя надзейныя і выгодныя ў эксплуатацыі вогнетушыцелі розных тыпаў, газавыя балоны, рэгулятары ціску, тэрмарэгулятары і запасныя часткі да газавых пліт вы знойдзеце ў Навагрудку. Спадар дырэктар - свядомы беларус, а ўзначальваемы ім завод з 1987 года, калі стварыўся з 32-тысячным горадзе першы беларускамоўны дзіцячы садзік, трымае патранат над гэтай пляцоўкай.

Назаўсёды незабыўнай застанецца сустрэча з начальнікам упраўлення народнай адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Аляксеем Саўчыкам, у нашым разуменні - куратарам. За адным сталом настаўнікі беларускай мовы з Беласточчыны адкрыта дзяліліся з ім думкамі наконт становішча навучання беларускай мовы ў нашым ваяводстве і адраджэнскіх працэсаў у беларускім школьніцтве на Гродзеншчыне і ў Рэспубліцы Беларусь. Мелі таксама магчымасць пераканацца аднесна талерантных на словах і канструктыўных на практыцы адносін спадара куратара да адукацыйных патрэб і імкненняў гродзенскіх палякаў.

Увесь час суправаджаў нас дырэктар абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў Станіслаў Сакалоўскі або намеснік дырэктара Галіна Барысюк. Арганізатарамі нашай пабыўкі ў Гродне былі: інспектар упраўлення народнай адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Тамара Прадзед і загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры вышэйзгаданага інстытута Марыя Бубешка. Шчырае ўсім Вам дзякуй за прыняты на сябе абавязак і вельмі багатую, шматкарысную праграму настаўніцкага курсу.

За групу ўдзельнікаў курсу -

**ЮРЫ БАЕНА**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 398*


*БАРЫС РУСКО*

### СІНУСАІДАЛЬНЫ СВЕТ

Па Млечным Шляху бяжыць Марафонец.
У ягоным ранцы мой сінусаідальны
свет.
У шчылінцы, прабітай вачыма,
хачу ўбачыць вобраз навыварат.
Цяга такая,
што забываю пра экстаз, прынесены
Раніцай.
Там, ля Вуснаў, цяплей і зяляней.
І слова жывейшае.
І ласка большая.
Паглынаю ўсё, будуючы мову-плыт,
бо ў сінусаідальным свеце
плысці па хвалях цікавей.

### ЗВАНЫ ЗВОНЯЦЬ НА ЗЯМЛІ

Званы звоняць на зямлі.
Хрыстос вершы чытае на памяць.
Людскія мары чыстыя,
брудныя рукі па локці.
Сера з'ядае святыні. Унутры
тынк бела-вапнавы.
Буда ў прыёмнай Ноя іграе
Гамлета. У корпус
Каўчэга цесля ўганяе апошні цвік.
Стары аплаквае ўласныя словы.
Плод заўчасна сарваны
дэфармаваў раніцу.
Магамет п'е рум. На гольфавым
полі выпростывае сцежкі лепей
За Лао-цзы.

### БЯЗЛІТАСНЫ ПЕЙЗАЖ

Хусткі чарадою спалі ў нябыт.
Па кары сцякае смутку сляза.
У чэрапах сонных дрэў
Бяззубы вецер шапялявіць элегію.
У закляцця памер поўны
і смелякоў няма, каб разбіць круг.
Вандроўнік туліць колер ржавы,
вясёлкі згаслай сочыць след.
Ды цеплыні нуль, хоць у далонях
Зорнае неба гарыць кастром.

Выдавецтва „Мастацкая літаратура" ў Менску выдала кнігу Сакрата Яновіча „Самасей". З'ява гэта неардынарная і прыкметная нават у нашым бязладным, багатым на падзеі жыцці. Па-першае, аўтар з-за мяжы, што не так часта бывае, а па-другое — і галоўнае — С. Яновіч каларытная асоба і самабытны пісьменнік. Я, для прыкладу, пазнаў бы ягоны твар без подпісу. І гэта ненармальна, што аўтара такога маштабу, на беларускай мове — мове арыгіналу — выйшла толькі чатыры кнігі з двух дзесяткаў наяўных. Думаецца, паступова гэтая ненармальнасць, як і ўсякая хвароба, будзе пераадолена.

У кнігу „Самасей" увайшлі: аднаймення аповесць, апавяданні і мініяцюры. Калі творыць дасканалы майстар, то за які б жанр ён не браўся, у кожным ён знаходзіць магчымасць годна рэалізавацца. Я не падзяляю думкі, што пісьменніку — сапраўднаму пісьменніку — адно ўдаецца, другое не ўдаецца. Любая старонка, сказ, абзац, напісаныя таленавітай рукою, маюць самавартасць.

Вось чыста адвольна разгортваю аповесць — 35-я старонка. Чытаю: *Пахацела сухім, леташнім крапіўнікам і мятай — ад рэдкалесся з альшыны і елачак, што рухава чарнелі на падабенства вывадка дзікіх качак. Ізбыла ахвота ўяўляць сабе празрыстую азёрную затоку, у якой жаўцее дно, цвітуць водарасці, варушацца рыбы, моршчыцца ветрык, а калі глядзіш у глыбіні, не бачыш смерці...* Можна цытаваць і далей. Я выразна бачу карціну, напісаную не пэндзлем, а чароўным словам, якая змушае мяне разважаць над жыццём. А ці не ў гэтым звышзадача пісьменніка, увогуле творцы?

Я не прымаю ранейшага ў нас закліку браць прыклад са станоўчых герояў літаратуры (Паўлік Марозаў, Павел Карчагін, маладагвардзейцы, Сямён Давыдоў і да іх падобныя). У кожнага чалавека свая дарога, і ніякім чужым лёсам яе не падсцелеш. Але, чытаючы, узбунтавацца супроць самога сябе (як у вуснай гаворцы вызначыў сваё творчае крэда Сакрат Яновіч), каб выявіцца ва ўсёй складанасці і супярэчлівасці чалавечай натуры, бадай, варта.

Менавіта чалавекам духова багатым, шчырым, прынамсі, перад самім сабою, паказаны галоўны герой аповесці інжынер Андрэй Антошка. Мне, выхаванаму на сацыялістычным рэалізме, нават трохі нязвыкла бачыць, што пісьменнік сімпатызуе далёка не беззаганнаму чалавеку. А для пісьменніка, з праўдзівым, сумленным поглядам на жыццё, любы чалавек сімпатычны, а з недахопамі, можа, найперш, — бо ён проста ўдзячны аб'ект для псіхалагічнага даследавання. Сакрат Яновіч — псіхолаг тонкі і назіральны. У ягоным вопыце, прасеяным праз пакутлівае, глыбінёю пазначанае думанне, адчуваецца **АГУЛЬНАЗНАЧНАЕ**. Гэтае агульназначнае можна смела называць філасофіяй быцця. Хочам мы таго ці не хочам, філасофія ёсць у кожнага, хоць для большасці з даволі ўмоўным значэннем. У змяншэнні гэтай умоўнасці, набліжэнні яе да сапраўднай існасці, вышэйшага сэнсу мне бачацца намаганні Сакрата Яновіча як пісьменніка і мысляра.

## НА ПАЛІЦУ ДАСКАНАЛАСЦІ

Навочная сустрэча з пісьменнікам (калі пашчасціць!) звычайна паглыбляе чытацкае разуменне ягонай творчасці. Такую ласку я займеў, прыехаўшы на Беласточчыну, якая нам з Беларусі не ўяўляецца без імя Сакрата Яновіча. Любасць пісьменніка да роднага кута, зямлі з усім жывым —людзьмі і прыродаю — непазбежна пераносіцца ў ягоныя творы, падфарбоўвае шматгранны свет ягоных герояў. Пісьменнік гэтак перапоўнены пачуццямі, што, спяшаючыся іх выспавядаць, адкрыта пераходзіць на непасрэднае выказванне. Так паяўлецца адна з асноватворчых асаблівасцей празаічнай манеры Сакрата Яновіча — лірычны пачатак. Найперш ён відаць у мініяцюрах. Да прыкладу, *„Беларускаму слову"*: *Беларускае слова, ты мая айчына! Мой сон ля акна цвета-ліпнёвага ў раніцу пчаліную. І пошум пушчы стрункахвойнай, і весялосць густазялёная. Ты, як дзяцінства, ідзеш за мною.*

*Слова матчынае, ты мая сляза! Мая трывога ў вечары кахання чыстакляцістага, у садзе юнацтва. І чарнабрывы позірк дзяўчыны сарамлівай, і бяссонне зорнае. Ты, як лёс паўстаеш, у даляглядзе нязбытным.*

Гэта верш у прозе, блізкі да малітвы — рытмам і ўнутраным сэнсам. Цяпер стала модаю цягнуць за вушы ў літаратуру ўсякія штучнасці, то не шкодзіла б многім перш зарадзіцца энергіяй народнага духу, хоць праз шчыліну глянуць на свет вачыма чалавека зямлі і працы ды кончыкам вуха паслухаць песню лесу, лугоў і палёў.

Грунт, на якім Сакрат Яновіч будуе адмысловыя замкі і хаткі сваёй творчасці, вельмі беларускі, вельмі канкрэтны і адчувальны, што не шкодзіць яму па майстэрству, па глыбіні даследавання чалавечай душы дыхтоўна ўпісвацца ў еўрапейскую, а можа, і сусветную літаратуру. Так і павінна быць. Калі ты не спасцігнуў характар нацыянальны, а па сутнасці, свой уласны, сябе, то і марна тужыцца падказваць, скажам, французу, які ён. А вось ведаць французу, хто такі **беларус**, думаю, цікава. Гэтым беларускім каларытам, яскравасцю нацыянальнага светаадчування вызначаючыся, кніга „Самасей" сама сябе аб'ектыўна, незалежна ад прыватных думак, ставіцца на паліцу дасканалых літаратурных твораў.

*Як жа блаславёна чыталася б там* (у асабнячку ў ялінавым лесе. — У.Р.) *апавяданнейкі Янкі Брыля, навелы Чэхава, прозу Сэндарса ды Бабеля. І яшчэ нешта — аб дымнай сінечы азёрнай Браслаўшчыны з белай готыкай або пранізліва светлых далячынях Правансіі — такое, ад чаго слёзы стынуць уваччу, якія мала будзе назваць вышэйшай радасцю...* (*„Мара на апошнім паверсе вышыннага будынка"*).

Да гэтых літаратурных настаўнікаў і захапленняў С. Яновіча — ведаю: чуў ад яго — я асабіста для сябе дадаў бы яшчэ імя аўтара гэтай мініяцюры.

**УЛАДЗІСЛАЎ РУБАНАЎ,**
**пісьменнік,**
**г. Менск.**

*ВІКТАР ШВЕД*

### КАЛІ Ж МЫ СТАНЕМСЯ ПАРТНЁРАМІ

Не ведалі сваёй мы вартасці,
Яна зусім прапала недзе.
Прасілі толькі талерантнасці
Заўсюды у сваіх суседзяў.

Не шанцавалі нашай нацыі
Суседзі розныя навокал.
Праявамі дыскрымінацыі
Кармілі нас на кожным кроку.

Жывем мы пададнымі зорамі,
Адно нас саграває сонца.
Калі ж мы станемся патрнёрамі
Суседзям у сваёй старонцы?

### ДУБРОЎШЧЫНА, САКОЛЬШЧЫНА

Дуброўшчына, Сакольшчына!
Я многа меў пашаны
У Ячне, у Талькоўшчыне,
Сынкоўцах, Крушынянах.

Усюды мы дзяліліся,
Як хлебам, родным словам,
Усюды ганарыліся
Тут беларускай мовай.

І песнямі фальклорнымі
Усхвальвалі старонку,
І не былі пакорнымі
Прад нацыскамі звонку.

Дуброўшчына, Сакольшчына,
Ці ж гэтае магчыма,
Што будзеце вы спольшчаны
Каб стацца нам чужымі?

Дваццаць шэсць дзяўчат

# ЯЕ ДЗІКІЯ ПТАХІ

У адзін адвячорак пад канец студзеня зайшла да нас у кватэру Міра Лукша. Прынесла першы экземпляр сваёй найпершай кніжкі; "*Дзікі птах верабей*"*. Таленавіта выкананая рэч заўсёды унікальная, а гэтая - у нашых умовах - яшчэ і ў тым, што кошт друку пакрыла сама аўтарка. Праўда, тады не ўсё яна заплаціла і таму друкар недаверліва даў ёй ці не той усяго экземпляр... Так будуць выходзіць кніжкі ў капіталізм.

Дзеля бойкага гандлю - прапанаваў я Міры змясціць на вокладцы падзагаловак "*Бабскія апавяданні*". Не паслухала. Можа і мела рацыю...

Прачытаўшы Мірыны апавяданні зноў я раптам усвядоміў, што загаловак кніжкі надта трапны для яе зместу. Кожны лёс, апісаны ў ёй, гэта - сапраўды - бы ў таго вераб'я. **Што Бог дасць, а хітрасць паможа!**

Разам з "*Дзікім птахам...*" у літаратуры "Белавежы" з'явілася жаночая проза /паэзію маем раней/. Бабскія гісторыі Лукшанкі /паненка/ сваім настроем нагадваюць гэтак жа жаночыя рэпартажыкі Аўроры /Лукшыхі па мужу/. З таго ж пушчанскалугавога канца разлівістай Нарвы. Там б'е крыніца нашага жаночага пісьменства, дзе - не столькі буйнасць прыроды, колькі чалавечая самота ў тым закутку свету. Жанчыны як стварэнне надзвычай таварыскае, прападаючае за вэрхалам жыцця, горш за мужчын пераносяць касмічную ціш.

Дваццаць шэсць яе апавяданняў, як дваццаць шэсць лёсаў дзяўчын. Яны, праўда, вяжуцца з хлапцоўскімі перыпетыямі, але не кавалеры тут галоўнымі героямі, хоць часта шмат гаворкі пра іх. Кабечае бачанне мужчыны смяшыць мяне. Напэўна, не іначай рэагуе мая чатачка на дзявочыя вобразы ў маіх тэкстах... І добра, і рэміс!

Міра піша на мяжы літаратурнага рэпартажу, у жанры пераказу здарэнняў, рэляцыі. Адчуваецца ў яе і нервовасць журналісцкага пяра. Як быццам страх, каб не забыцца пра істотную дэталь... **Таму існа літаратурная творчасць у Міры Лукшанкі яшчэ наперадзе.**

Пакуль што важнейшы ў яе жыццёвы факт, чымсьці рэфлексія наконт месца яму ў неабдымнасці чалавечага існавання. **Тое даецца, аднак, толькі з гадамі.**

Я не супроць пагадзіцца з тымі знаўцамі літаратурнай лабараторыі, якія цвердзяць, што тэкст паўстае ад канца свайго, а не ад пачатку. Што сюжэт пішацца, менавіта, дзеля ягонага заканчэння /Дастаеўскі стварыў "Братоў Карамазавых" нібы для фінальнай сцэны смерці каханкі героя рамана/. Ці так гэта, ці не, але Міра дасягнула ўмельства, так сказаць, фармулявання тэзы заканчэння. У каротказ формах яно павінна быць найкароткае і абавязкова нечаканае, хоць і прадчуванае чытачом.

Твор "*Сірата*" закончаны ў рытме эпічным: *Калі Данка праз тры месяцы паявілася ў Беластоку, як заўсёды радасная і пахучая подыхам далёкага, маці ўдарыла яе ў твар. Біла аберуч, не ашчаджаючы. Першы раз у жыцці. Тады дачка таксама ўдарыла яе.*

Вось прыклад прынцыпу: **цесна словам, шырока думкам.** Як многа сказана, - здавалася б: самым звычайным чынам, - пра жыццё, якое ўжо заканчваецца /маці/, і якое толькі пачынаецца, але такім і будзе /дачка/.

Няхай Міра Лукшанка памятае пра гэтую сваю здольнасць і заядла працуе над ейным развіццём! Фраза ў прозе не можа быць гаваркою. І што важней - павінна быць незаменнай.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

---

* Міра Лукша, **Дзікі птах верабей**, Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", Беласток, 1992.




**Szanowny Panie Redaktorze,**

W związku z zamieszczonym w Waszym Tygodniku Nr 7 z dn. 14.02.93 artykułem pt.: „Biełaruskija kapitalisty" podpisanym - Aleś Barski, zobowiązuję Pana do umieszczenia w najbliższym numerze gazety /w terminie nie dłuższym niż dwa tygodnie/ anonsu następującej treści i zapoznanie z tym pismem autora artykułu:

"W związku z artykułem pt.: "Biełaruskija kapitalisty" w Nr 7 NIWY z 14.02.93 podpisanym: Aleś Barski, bezpodstawnie obrażającym moją osobę, żądam od autora tego artykułu Pana Barszczewskiego:

- dwukrotnego wydrukowania w tygodniku NIWA w terminie nie późniejszym niż 30 dni od dnia ukazania się tej treści, przeprosin z odwołaniem wszystkich obrażających mnie zarzutów niezgodnych z prawdą, a wymyślonych przez autora,

- dokonania wpłaty sumy pięć milionów zł na fundusz budowy Muzeum Kultury Białoruskiej w Hajnówce jako nawiązki z tytułu obrazy moralnej i przesłania na mój adres w terminie nie przekraczającym 30 dni od daty ukazania się tej treści kopii dokonania wpłaty.

W przypadku niespełnienia obu w/w warunków w tym terminie mój adwokat skieruje pozew do sądu o zniesławienie. Jednocześnie oświadczam, iż w przypadku poniesienia strat z tytułu tego zniesławienia przez Spółkę, której aktualnie jestem prezesem, Spółka również wystąpi z roszczeniami o odszkodowanie.

**Яўген Салагуба**

P.S. Pragnę zaznaczyć, że gazeta drukująca paszkwil z podaniem nazwiska ponosi również odpowiedzialność za obrazę moralną.

A wystarczyło zadzwonić i wysłuchać racji drugiej strony ??

Z poważaniem **Я.С.**

**Ад рэдакцыі:** Спадар Яўген Салагуба, мы лічым, што чалавек, які падпісваецца пад сваім тэкстам, адказвае за яго змест. Справу інцыдэнту ў варшаўскім клубе БГКТ абмяркоўвала Галоўнае праўленне гэтай арганізацыі, якой страшынёй з'яўляецца аўтар гэтага артыкула. "Ніва" як адзіны беларускамоўны часопіс у Польшчы хоча быць тыднёвікам даступным усім беларусам і таму на яе старонках няраз з'яўляюцца выказванні, якія не супадаюць з поглядамі рэдакцыі. У справе гэтай канкрэтнай публікацыі А. Баршчэўскага, якая Вас кранае, мы лічылі, што старшыня БГКТ выступае публічна, маючы абгрунтаваныя погляды і свядомасць адказнасці за тое, што піша.

Са свайго боку гарантуем Вам магчымасць прадставіць Ваш пункт гледжання ў гэтай няяснай справе.

# ШЫЛА

Вярнуся я яшчэ раз да артыкула Алеся Барскага п.з. "Разбой" /"Ніва" н-р 1918/ з серыі "На мяжы". Першы сказ апавяшчае, што ўсе размоўцы аўтара "схільны прыпісваць капіталізму звярыны дзікі характар". У другім сказе аўтар абяцае хранікальна апісаць факты. У гэтай "хроніцы" Алесь Барскі, апісваючы здарэнні прывёў толькі дзве даты: адна дакладная - 4 студзеня 1993 года /дата разбою/ а другая прыблізная - 1990 год /год заснавання суполкі "Біяполь"/. Фірма гэтая наняла ў Таварыстве адзін пакой і абавязалася праціць арэнду за ўсе памяшканні - піша аўтар. І далей: "... у хуткім часе сярод удзельнікаў фірмы ўзніклі вельмі сур'ёзныя канфлікты, якія датычылі нядобрасумленных разлікаў шэфа фірмы Я. Салагубы". Што абазначае "ў хуткім часе"? Ці гэта быў 1992 год, ці 1991, ці можа ўжо 1990 год? Калі ўзніклі канфлікты на грунце фінансавых разлікаў з прэтэнзіямі да Я. Салагубы, то не дзіва, што ён адказаўся сам плаціць ўсю арэнду, а пастанавіў плаціць толькі сваю "долю", а долю іншых акцыянераў перанесці проста на іх кішэнь. Алесь Барскі пры нагодзе ведае ўжо віноўніка, які вядзе „нядобрасумленныя разлікі", хаця, здаецца, ніякі суд яшчэ віноўнага ў гэтым канфлікце не ўстанавіў: "эвалюцыя справы пайшла" толькі "ў напрамку суда". Чытач мае дадумацца, што патрабаванні арэнднай платы былі прадстаўлены ўсім акцыянерам суполкі, а не толькі яе кіраўніку, пра гэта ў артыкуле ні слова; няма таксама даты гэтага патрабавання. Салагуба плаціў сваю "долю", а каб аддзяліцца ад супольнікаў, залажыў ужо выключна сваю фірму. Ці іншыя акцыянеры "Біяполя" плацілі - пра гэта аўтар не інфармуе - відаць нічога не чуў. Адзін з іх пратэставаў толькі супраць адыходу Салагубы, з якім "да канца перасварыўся". Навошта ж тады такі "нядобрасумленны" антаганіст патрэбны яму да суполкі? У сваім артыкуле Алесь Барскі стараецца, здаецца, схаваць у мяшок нейкае шыла. Невядома ад калі, ад якога месяца і якога года /1992, 1991 ці 1990/ Салагуба плаціў толькі пятую частку /1200000 замест 6000000 злотых/ арэнды. Пра астатнія часткі ні слова, бо, здаецца, няма і пра што гаварыць: фірма без Салагубы "мае тэарэтычны характар". Ад якога часу арэнда не аплачвалася і да якой квоты выраслі даўгі? Ці ўласнік будынка патрабаваў пакінуць памяшканне, а калі так, то як і калі? Ці фірма "Dipservice" папярэдзіла аб гэтым? Калі так, то калі і як да гэтага паставілася Таварыства? Ці яно сур'ёзна аднеслася да папярэджання, ці, вядомым звычаем /як з ніўскімі камп'ютэрамі/, набрала вады ў рот? Ці Ф. Галёнка і М. Алексяюк сталі ахвярамі "капіталіста" Салагубы, ці Таварыства або свайго "сацыялістычнага" падыходу да справы? Здаецца мне, што адзінай асобай, якая сур'ёзна адносілася да аргументаў фірмы "Dispervice" быў менавіта Я. Салагуба. Несур'ёзна аднёсся ён толькі да Таварыства: як бы не пасварыўся ён са ваімі супольнікамі і прыхільным ім працаўніком Таварыства, павінен ён быў трымацца здалёк ад гэтага вельмі непрыемнага і сумнага высялення, якое сталася для яго выканаўцаў аказіяй да разбою на людзях, з якімі ён ўсё-ткі штосьці супольнага мае.

Пытанняў назбіралася шмат. Хто на іх адкажа? Ад Алеся Барскага спадзявацца на іх адказу трэба як ад быка малака. Можа нешта ў гэтай справе напішуць у "Ніву" пакрыўджаныя Ф. Галёнка і М. Алексяюк ці Ю. Бусловіч, які сабраў цэлую дакументацыю. А можа на пастаўленыя пытанні прышле свой адказ Я. Салагуба, які, здаецца, павінен найлепей ведаць усе сакрэты гэтай справы. А можа наш чытач Ю. Зюзя, акцыянер суполкі "Біяполь", які, здаецца, стаіць збоку найбольш гарачай валтузні. Чорна-белая карціна, якую хацеў намаляваць Алесь Барскі, выйшла нейкай невыразнай, размазанай - хацелася б ведаць, як яна выглядае ў сапраўднасці.

Яшчэ нядаўна, калі ў нашай краіне пачаліся перамены, у тым ліку і сякое-такое парадкаванне эканамічных адносін, перад беларускім асяроддзем ставіўся выбар: ці культурную дзейнасць даверыць дзяржаве, ці весці яе надалей у рамках Таварыства, але на новых фінансавых умовах. Выбар першага варыянта абазначаў бы, што дзяржава не толькі брала б на сябе ўсе расходы, але таксама назначала б на кіраўнічыя пасады не грамадскіх дзеячаў але па-просту кампетэнтных людзей /гэта так у тэорыі - на практыцы магло б быць крыху інакш/. Назначэнне гэтае праводзілася б шляхам конкурсаў перад адпаведнай камісіяй; грамадскія арганізацыі рэкамендавалі б толькі кандыдатаў. Такі варыянт уладам нашага Таварыства не спадабаўся: яны абралі "свабоду", маючы ў кішэні датацыю ўрада Т. Мазавецкага. Датацыя скончылася, дзяржава грамадскім дзеячам грошай на ўтрыманне не дае, плаціць арэнду няма чым. Хто ж вінаваты, што беларускае асяроддзе дайшло "да ручкі"? Хіба ж не такі сур'ёзны і заслужаны вучоны і дзеяч, як старшыня БГКТ і яго аднадумцы! Вінаватыя, відаць, тут такія людзі, якія не хочуць аплачваць чужых „заслуг".

**А. ВЯРБІЦКІ**

## ТВАЕ І МАЕ Б'ЮЦЬ НАШЫХ!

У вёсцы П. аднаму селяніну памерла жонка. Застаўся з трыма дзеткамі. Гадаваў іх памаленьку. Праз тры гады ў суседкі памёр муж, асіраціў двое дзяцей. Два гады Юля жыла сама. Людзі, як гэта людзі, падсмейваліся з удаўцоў: "Што вы так паціху? Мы там ведаем, што ночкамі сустракаецеся! Разгараджвайце плот, бярыце шлюб і жывіце па-божаму!"

Так і сталася. Вацэк і Юля пабраліся шлюбам. Нарадзілася ім трое дзяцей. Калі тыя падраслі, кожны дзень вёска смяялася. Чаму?

Дзеці, як гэта дзеці, раз добра гуляюць, раз - б'юцца. Шасцёра большых заўсёды біла малечаў. Калі Юля ўбачыла, што малыя дзяруцца, крычала:

- Вой! Вацэк! Ратуй! Твае і мае б'юць нашых!

Вацэк бег з бічом, караў старэйшых, малых пацяшаў, прытуляў.

Дзеці "яго" і "яе" раз'ехаліся па свеце, а "іхнія" засталіся жыць у вёсцы. Два разы ў год, на вялікія святы, збіраюцца і ўспамінаюць час дзяцінства.

**АЎРОРА**




## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**ЧАСТКА XXXI**

Думаю, што кожны з чытачоў заўважыў, што амаль усе мае размовы былі праведзены з вясковымі жыхарамі. Прызнаюся, што хаця і жыву ў горадзе, аднак у сваім падтэксце нашу сялянскую свядомасць і патраплю параўнаўча лёгка знайсці кантакт амаль з кожным жыхаром вёскі; з гараджанамі атрымліваецца цяжэй. Зрэшты размовы з тыповымі гараджанамі мяне не вельмі цікавяць. Амаль усе яны штучныя і стараюцца ў размове не быць тымі, якімі ёсць у сапраўднасці. Беларусы ў Польшчы гэта галоўным чынам сяляне, а тыя беларусы, якія папалі ў горад, але захавалі нацыянальную свядомасць і здольнасць да народнай філасофскай інтэрпрэтацыі свету складаюць, мабыць, невялікую колькасць людзей. Мне, на жаль, дагэтуль не ўдалося спаткаць такіх гараджан, якія б захоўвалі фабулярную структуру сваіх выказванняў. Зрэшты, маю на воку некалькіх такіх выхадцаў з Бандароў і суседніх вёсак, якія, паводле маіх перакананняў, павінны праявіць здольнасць да патрэбнага мне апавядальніцтва. Пакуль што, аднак, час на размову з імі не настаў. Думаю, што для такой размовы неабходнае з імі спатканне ў іх роднай вёсцы, дзе, мабыць, прачнецца ў іх тыповая сялянская падглеба і тады можна будзе спадзявацца добрых вынікаў. Пакуль што, скарыстаю з гутаркі сямідзесяцігадовага селяніна, які развfamiliar жае аб суадносінах паміж прыватным і дзяржаўным у жыцці.

„А што ты так цэлы час нажымаеш на гэты капіталізм, калі ты і сам гаворыш, што ўсё добрэ ў тваім жыцці палучыў ад сацыялізму, то начорта табе гэты капіталізм? Ты гаворыш, што толькі гаспадарка, катора абапіраецца на прыватнасці, будзе выдайна. Ну, гэто то напэўно так, калі гаварыць аб ральніцтве, то вядомо, што прыватны мужык усё жыццё ўстае ў чатыры часа, а лягае спаць у адзінаццаць часоў. Праўда, раней то лягалі намнога раней, як гэта гаворыцца, ішлі спаць разам з курамі. А сегодня як ты пойдзеш спаць разам з курамі, калі гэты чортавы целевізар усё гудзе і маладых голых бабаў паказвае. Раней то мая старая, як толькі ў целевізар вылезе гола баба, то яна возьме грах і зараз выланчыт целевізар. Я старой, калі яна толькі адна ў хаці, то дам за гэто чосу і аблаю. Ну, вядомо, аб бабах нічого не гавару, толькі кажу, што зараз „вядомосці" будут, а мне без паліцікі то жыці не можно. Вазьму і ўлончу целевізар зноў, а тут яна ў крык: „Табе ні паліцікі, але бабаў маладых хочацца, стары ты пень! Ты ж як толькі баба голу сраку пакажа, то зараз барадой да целевізара прыліпаеш! Нібось, я цябе добрэ знаю! Чом ты ў цэркву не пойдзеш, на ангелаў не паглядзіш, бясовесны ты ёлапенць, больш нічого. Ты за гэто ўсё без мяне ў пеклі пасядзіш!" Я ёй аб'ясняю, што ў пеклі то будуць сядзець не тые, што глядзят, але тые, што паказуют. А яна свае: „І тые, і тые не выкруцяцца ад пакарання божаго!"

Не, але я тут не аб тым гавару, што трэбо. Ну, вядомо, мужык прыватны то працуе ад цямна да цямна і таму штось мае. А тые ў калхозах чы ў гэтых цэлых пэгээрах то яны так як чыноўнікі ад васьмі да трох або чатырох. Яшчэ ў іх і субота і нядзеля свабодны, а то яшчэ і урлёп, і ўчасы. Ну, вядомо, распусціла людзей дэмакратыя, страшно распусціла. І мы жывем сегодня па-другому. Ужэ ні так працуем, як працавалі перад вайною. Лягчэй стала, каліс жалі сярпом або касою, малолі ў жорнах. А падумай, што бабы выраблялі з льном або канаплямі, ад восенні да вясны з імі корпаліся. А сегодня трактарам згарэ, сеўнікам пасее, камбайнам скосіт і змалоціт і нават хлеба ні пячэ. У склепі купіт. А адзёжу хто тчэ чы шые? Усё ў склепі купляе.

Ну, але чы гэто ўсё значыт, што панствовэ ўсё непатрэбнэ, бо прыватнэ лепшэ? Дудкі! Ну, ты сам глянь, у нас е кулка панствовы. У іх там розныя машыны, ну і ў прыватных таксама е машыны. Ну то ты вазьмі трактар, касілку, сеялку чы камбайн з кулка і вазьмі гэты машыны ад прыватнаго. Зробят табе адзінакаво, а якая аплата? Прыватнаму трэба на адну трэць, а то і на палавіну плаціць больш, чым кулковаму. Ну то што гэто такое? То ж кажут: „Кулка панствовы, то там усё крадут і ропу, і часці ад машын, і смары. А ў прыватнаго ніхто нічого не крадзе. То гэто так выходзіт, што панствовы, хоць там крадут, берэ таней чым прыватны, каторы ў сябе не крадзе. А гэто значыт тое, што прыватны абкрадае мяне, беручы больш, чым панствовы. І бяда ў тым, што той прыватны то часто твой блізкі сусед або і сваяк, усё роўно грабіт. Ну то як гэто аб'ясніць? А тут я табе скажу па совесці і аб'ясняці не трэба, бо ўсё яснэ для каждого. Вядомо, што панствовы грабіт менш чым прыватны. То хто тут для мужыка лепшы? Ну, вядомо, што панствовы. Калі толькі сказалі, што будут ліквідаваць кулка то я сказаў, хлопцы — бяда будзе. Дагэтуль, калі яшчэ былі кулка, то прыватны грабіў, але крыху на кулка аглядаўся, адзін пабойваўся, другі ўстыдаўся. А калі кулкаў ні будзе, то мусіш браці да ўсякае работы прыватнаго. То ты знаеш, што ён будзе выробляць? Ён цябе так аграбіт, што ў адных калісонах пойдзеш. От тобе і маеш сваго беларускаго капіталіста. Ён цябе аграбіт ні горш чым немец чы якісь іншы загранічны чорт. Ну, брацішку, нічого не гавары. Капіталізм гэто бяда. Паглядзіш, палавіна або і больш поля будзе аблагом ляжаці. Чы гэтаго ў Варшаві ні панімают? Ты ім скажы, або навет іх прывязі і пакажы ім аблагі на Ульянцы, у Таніцы, у Багнюках, у Бандарах, у Рыбаках, у Рудні, пакажы гэту пустыню, дзе яшчэ пару лет таму каласіласё поле. Брацішку, сідзіт там якісь вялікі урэдзіцель і хочэ давесці Польшчу да згубы. От што скажу табе па совесці".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У НОВАБЕРАЗОЎСКАЙ ШКОЛЕ...

...дзеці ахвотна ўдзельнічаюць у розных конкурсах, між іншым, у мастацкім /маляванне/ і дэкламатарскім. Кожны год аб'яўляе конкурс Грамадскае праўленне Камісіі апекі над помнікамі царкоўнага мастацтва ў Варшаве. Высокую ацэнку атрымалі малюнкі **Басі Галёнка** (яна таксама найлепшы дэкламатар у школе), **Арка Дзенісюка** і **Марка Парфенюка**. Іх працы былі вылучаны на выстаўцы карцін. Заняткі малявання вядзе маладая настаўніца Эва Мароз.

Вучні новаберазоўскай васьмігодкі ахвотна знаёмяцца з правіламі вулічнага руху і здаюць экзамены на веласіпедную карту (на правы язды роварам і мотавеласіпедам, інацай мотаролерам). Удзельнічаюць яны таксама ў Агульнапольскім турніры ведаў правіл бяспечнай язды па вуліцах і дарогах. Заняткі з юнымі вадзіцелямі вядзе настаўнік Юры Куклік. Па прафесіі ён географ. Свой свабодны час ён прысвячае на так званыя пазаўрочныя заняткі з моладдзю. Стварыў гурток аматараў матарызацыі.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

*ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ*

## СКОРАГАВОРКІ

### САМАВАР

Трэба вару
З самавара?
Вар
вару,
Вар
вару,
парай,
як курэц,
куру!

### МАЛА ШЫЛА...

Мала шыла,
бо спяшыла,
шыла шалічак
шыншыла.
Шыла мала -
малышы
плакалі:
"Пакалышы"!..

### СЫЧ

Сыч на сонейка
Сычыць -
Не дае сычу
Сачыць.
Сыч-сусед сказаў сычу:
"Ты пас-с-спі,
Я - пас-с-сычу".

* * * * * * * * * * * *

*МІКОЛА СІВЕЦ*

* * *

Спрытна кроп
Палоў Пракоп,
Лёг пад кропам
І захроп.

* * *

Ракі, рыбы і рака
Абхітрылі рыбака.



*Апошнія сумёты.* **Фота У. Завадскага**

*ЗМІТРО БЯСПАЛЫ*

# РУСАЧОК І БЕЛЯЧОК

*КАЗКА*

Было гэта ў Сінім лесе позняй восеньскай парою. Якраз тады, калі з усіх дрэў апала лісце. Ні схавацца, ні затуліцца.

Аднаго дня зайка Русачок - ён быў вельмі палахлівы, усяго на свеце баяўся - сеў пад бярозкай і заплакаў. На задніх лапках сядзіць, пярэднімі - слёзы выцірае.

Прабягаў каля бярозкі шэра-белы зайчык Белячок. Быў ён шэра-белы таму, што яшчэ не выліняў на зіму: палавіна поўсці - белая, зімовая, палавіна - шэрая, летняя.

Убачыў Белячок Русачка і пытаецца:

- Чаго ты, браце, плачаш?

- Як жа мне не плакаць! - жаліцца Русачок. - Кожны хоча мяне схапіць: і каршун, і крумкач, і ліс...

Усміхнуўся Белячок і кажа:

- Мне горш, чым табе. Ты шэры, непрыкметны ў шэрым восеньскім лесе. А глянь на мяне: я амаль белы, увесь як на далоні. З гушчару і носа не высоўвай.

Як пачуў зайка Русачок, што Белячку яшчэ горш, чым яму, адразу перастаў плакаць. Павесялеў і паскакаў па лесе.

І вось мінула шэрая восень і настала белая зіма. Снегу нападала шмат. На полі, у лузе, у лесе - скрозь бела. А на белым снезе Русачок вельмі прыкметны. Сеў ён пад елачкай і горка плача. На задніх лапках сядзіць, пярэднімі - слёзы выцірае.

Прабягаў каля елачкі зайка Белячок. Ён ужо ўвесь выліняў, стаў белы-белы, як снег, толькі кончыкі вушэй чорныя.

Убачыў Белячок Русачка і пытаецца:

- А чаго ты плачаш?

- Як жа мне не плакаць! - жаліцца Русачок. - Добра табе, ты ўвесь белы, на белым снезе цябе ніхто не заўважыць. А мне хоць з голаду памірай, баюся вылезці з-пад елачкі, бо адразу хто-небудзь схопіць...

- Бяды такой, - сказаў Белячок. - Удзень спі, адпачывай. А як толькі сцямнее, бегай дзе табе захочацца. Каршуны, крумкачы і лісы ўночы спяць.

Узрадаваўся Русачок, перастаў плакаць. І так пасмялеў, што кожную ноч бегаў у вёску, абгрызаў кару на маладых яблынях і грушах.

І вось мінула белая зіма і настала шэрая вясна. Русачок зноў стаў непрыкметны. Здавалася б, радуйся, дзе хочаш, там і гуляй. А зайка сеў пад хвойкай і горка плача. На задніх лапках сядзіць, пярэднімі - слёзы выцірае.

Прабягаў каля хвойкі Белячок. Быў ён не белы, а шэра-белы, бо шэрая летняя поўсць яшчэ не нарасла, а белая зімовая - уся не выпала.

Убачыў Белячок Русачка і пытаецца:

- А цяпер чаго ты плачаш? Ты ж шэры, у лесе шэра, цябе цяжка заўважыць. Гэта мне хоць памірай, бо няма куды дзявацца: шэра-белае футра здалёку відаць.

- А як жа мне не плакаць? - жаліцца Русачок. - У ляску, дзе я жыў, пасяліўся Ліс. Не ведаю, што і рабіць, куды падацца.

- Бяды такой, - сказаў Белячок. - Перабірайся ў другі лясок, дзе няма лісаў.

Узрадаваўся Русачок, перастаў плакаць. Перабраўся ў новы лясок і зажыў шчасліва, весела. Зразумеў, што слязамі ніякаму гору, ніякай бядзе не паможаш. Самому трэба дбаць, каб усё добра было.

Можа, вы, сябры, і не паверыце, што Русачок плакаў. Але ж гэта было. Цяпер ён не плача. Наведайцеся ў Сіні лес - і не ўбачыце, каб сядзеў заяц Русак пад бярозай ці хвояй ды горка плакаў.

*Вершы Віктара Шведа*

### ЛЕПШ СПЯЧЫ ШЭСЦЬ ТОРТАЎ

- Заўтра, мілы Жэня,
Твой дзень нараджэння,
Дык спяку я ў печы
Торт і дам шэсць свечак.

Жэня раз чацвёрты
Падымае спрэчку:
- Лепш спячы шэсць тортаў,
Ды з адною свечкай!

### МАЮ БОСЫЯ РУЧКІ

Снегапад прыгожы,
На дварэ Агнешка.
- Пагуляем, можа,
Унучка, у снежкі?

- Не магу, бабуля, -
Адказала ўнучка. -
Яшчэ не абулі
Мы босыя ручкі.

### ВОЎК У НАШАЙ ХАЦЕ

Абудзіўся Вацік,
Штурхае бабулю:
- Воўк у нашай хаце,
А вы ўсе заснулі?!

- Не ўшчынай трывогі,
Спі сабе ў спакою:
Гэта ж храп старога
Дзедкі за сцяною!

### ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў КРАМЕ

Тузаюцца дзеці
У зацятай спрэчцы:
- Лепш лавіць у сеці,
Ці вудзіць у рэчцы?

Вось у справе рыбы
Парада Адама:
- Найлепш лавіць хіба
Вам у рыбнай краме!

### НІНКУ ПРАДАЙМА НА РЫНКУ

Увечары тата
Купае блізняты.
Малюсенькі Ваня
Ляжыць сабе ў ванне.
А Нінка малая
Крычыць, як ліхая.

Старэйшы іх брацік
Падказвае таце:
- Крыклівую Нінку
...Прадайма на рынку!

### П'ЯЎКА

Настаўнік распачаў урок.
- Скажыце, дзеці, які ўжо спрадвеку
Вядомы добра ўсім звярок
Найбольш прывязаны да чалавека?

Тут хуценька дае адказ
Найбольш дасціпны заўжды ў класе
Слаўка:
- Па-мойму будзе гэта ў нас
Звярок усім вядомы: п'яўка!

### У КЛЕТКУ НЕ ЗАХОДЗІЎ

- Быў я ў заапарку, -
Адазваўся Федзя, -
Там убачыў парку
Беленькіх мядзведзяў.

- Ты цукеркі, дзетка,
Даў ім пры нагодзе?
- Я ж да іх у клетку
Зусім не заходзіў!



З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## ПРЫЛАДЫ СТАРАЖЫТНЫХ МУЗЫКАЎ

Найбольш старажытнымі музычнымі інструментамі ва Усходняй Еўропе лічацца рытмічна-ўдарныя прылады, зробленыя з касцей маманта, якія знойдзены на Мезінскім палеалітычным паселішчы ў Чарнігаўскай вобласці, а таксама некаторыя знаходкі з Гарадка Ровенскай і Касцёнкаў Варонежскай абласцей. Інструменты накшталт флейтаў або жалеек вядомыя з помнікаў Моладава V, Атакі I, Аўдзеева, Касцёнкі.

Да перыяду ранняга неаліту (каля 4 тысяч гадоў да н.э.) адносіцца знаходка дзвюх касцяных прамых адкрытых флейтаў, якія маюць па пяць гукавых адтулін, у возеры Сенніца на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абласцей. Частка жалейкі з трыма адтулінамі, зробленай з косткі невялікай птушкі, выяўлена пры раскопках неалітычнага паселішча Асавец у Бешанковіцкім раёне. Пры вывучэнні помніка Камень (2 тысячы год да н.э.) каля Пінска сярод знаходак трапіліся дзве тонкасценныя касцяныя трубачкі (магчыма, ражкі) і свістулька.

Каля сярэдзіны I тысячагоддзя да н.э. на паўднёвы захад Беларусі пранікалі плямёны лужыцкай археалагічнай культуры. На помніках гэтай культуры ў Польшчы знаходзяць рэчы, звязаныя з музыкай. Сярод іх такія, напрыклад, як касцяны музычны інструмент з 9 частак, гліняны свісток, які мае форму рога тура.

Відавочна, шырокае ўжыванне мелі трашчоткі. Яны былі касцяныя, мелі з аднаго краю зубчыкі, і па іх для здабывання гуку вадзілі кавалкам дрэва ці косці, у выніку чаго атрымліваўся характэрны трэскат. У жалезным веку ўвесь вядомы музычны інструментарый удасканальваўся далей. Пры раскопках гарадзішча каля вёскі Гарані Смаргонскага раёна знойдзена зробленая з трубчастай птушынай косці дудкасвісцёлка даўжынёй 71 сантыметр. Абодва канцы свісцёлкі зрэзаны прама, на адным баку - дзве круглыя адтуліны, на процілеглым - адна.

Даследчыкі, беручы пад увагу праславянскую назву гусляў, лічаць, што яны ўжываліся да распаду праславянскай моўнай еднасці, г.зн. да сярэдзіны, ці найпазней, да трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. З глыбокай старажытнасці паходзіць падабенства некаторых пастухоўскіх музычных інструментаў. Так, прамыя аналагі доўгім драўляным трубам з Беларусі ёсць у Прыбалтыцы, Польшчы, Швецыі, Карпатах. Казіныя ражкі з ігравымі адтулінамі распаўсюджаныя на частцы тэрыторыі Беларусі, ва ўсходняй Прыбалтыцы, у Фінляндыі і Швецыі. Найбольш простыя трубы, згорнутыя з бяросты ці альховай кары, былі вядомыя, акрамя Беларусі і Польшчы, яшчэ ў фінаў, карэлаў, эстонцаў, латышоў.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Маці вучыць сына, як паводзіць сябе за сталом:

- Ніколі за сталом не цягніся рукамі праз увесь стол, калі табе што-небудзь трэба. Хіба ж у цябе няма языка?

- Ёсць, але ён жа такі кароткі...

***

- Чаму ты так хутка ясі? - спытала цётка, якая дала плітку шакаладу маленькай пляменніцы. - Няўжо ты забылася, што ў цябе ёсць брацік?

- Не, цёця, не забылася. Таму і спяшаюся.

***

- Сёння паедзем да бабулі, - сказала мама маленькай Волечцы.

У перапоўненым аўтобусе Волечка незадаволена пытае:

- Мама, чаму так многа людзей едзе да маёй бабулі?!

***

- Мама, у анёлаў абавязкова павінны быць крылы?

- Так, мая радасць.

- А чаму ж у цёткі Мэры іх няма?

- А чаму ж у яе павінны быць? З чаго ты ўзяла?

- Разумееш, калі цябе няма дома, тата ёй кажа: "Мэры, ты проста анёл, не тое, што мая жонка". Значыць, у цёткі Мэры крылы ёсць?

- Ну, што ж, праверым. Калі яна прыйдзе яшчэ раз, высветлім, ці ў яе ёсць крыльцы, ці іх няма. Цікава, ці паляціць... з балкона?

***

- Чаму твой маленькі брацік так крычыць? - спыталі ў чатырохгадовага хлопчыка.

- Яшчэ б яму не крычаць! Калі б у вас не было ні валасоў, ні зубоў, а ногі вас не трымалі і рукі не слухаліся, - вось вы б яшчэ як закрычалі!

***

- Хутчэй! - крычыць хлопчык, падбягаючы да суседняй фермы. - За маім татам гоніцца бык! Дапамажыце мне, калі ласка!

- Як жа табе дапамагчы?

- Дапамажыце мне ўставіць плёнку ў фотаапарат, сам я яшчэ не ўмею!

***

Бацька правярае дзённік сына:

- Матэматыка - двойка! Дрэнна... Руская мова - двойка! Вельмі дрэнна... Гісторыя - таксама двойка! Нікуды не варта! Спевы - выдатна? І ён яшчэ пяе?!

***

- Мама, у цябе ўжо некалькі сівых валасоў, - кажа малы.

- Вядома, бацькі заўсёды сівеюць, калі дзеці іх не слухаюцца!

- А, цяпер я разумею, - разважае дзіця, - чаму наша бабуля зусім сівая...

***

Настаўнік увайшоў у клас і ўбачыў на падлозе акурак.

- Чый гэта? - грозна пагледзеў на вучняў.

- Па-праўдзе - ваш, сэр, - адказаў самы смелы. - Вы першы яго ўбачылі.

***

- Паслухай, жонка, з таго часу, як мы сталі даваць нашаму гарэзу пені за добрыя адзнакі, ён стаў насіць дадому адны пяцёркі. Што ты думаеш па гэтай прычыне?

- А ці не здаецца табе, што яны дзеляць выручку з настаўнікамі?..

**В. БАБЕЙ**

*УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕНКА*

## ЗАГАДКІ

Я з маленства дрывасек.
Сёння зноў асіну ссек.
Пойдзе ўся кара на ежу,
Ствол на частачкі парэжу.
У ваду насіць іх буду,
Зноўку будаваць запруду.
Хатка над вадой мая.
Здагадаўся ўжо,
Хто - я?

* * *

Хворых я не слухаю,
Я па хворых стукаю:
Тук-тук-тук ды тук-тук-тук.
Чуў здалёк яшчэ мой стук?
Ледзь паспею адпачыць -
Зноў хутчэй
Лячу лячыць!

* * *

Мыш не мыш, жыву я ў полі,
Там і бегаю на волі.
За шчакой кішэню маю,
Рупна зернем напаўняю,
Бо зярнятак знаю смак.
А завуць мяне...

* * *

Ля сцяжынкі да крыніцы
Збудаваны дом з ігліцы.
Можа вам знаёмы ён?
Жыхароў у ім мільён.
Тут шчыруюць усе чыста -
Вось чаму навокал чыста.

Прыгоды дэтэктыва Гаўка

ЛЯВОН ВОЛЬСКІ

Гэта наш слуга, яго завуць Укс.
Добры дзень!
А гэта ягоная жонка. Яна працуе прыбіральшчыцаю.
Дзень дрбры!
У вас ёсць друкавальная машынка?
Ёсць, а як жа!
Вось яна.
Правядзем эксперымент.
Чык! Чык! Чык!
Параўнаем тэксты... У абодвух западае "О".
Усё зразумела! Друкавалі на гэтай машынцы!
Значыцца, гэта нехта з тых, хто тут жыве...
Шаноўны дэтэктыў, ці не жадаеце выпіць?
Глык!

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

## ХРЭН ЛЕЧЫЦЬ РЭЎМАТЫЗМ І ПРАСТУДУ

Хрэн звычайны *(Armoracia lapathifolia Gilib.)* гэта расліна, якую сустракаем у Еўропе і Азіі. У Польшчы расце дзіка на палях і ў агародчыках. Хрэн таксама вырошчваюць у спажывецкіх мэтах. Усе ведаюць, якая гэта добрая прыправа да яек, мяса і рыбы; асабліва велікодны стол не можа абыйсціся без хрэну. Не ўсім, аднак, вядома, што хрэн гэта таксама вартасная лячэбная расліна.

Лісце хрэну вялікае ўнізе, лісце на сцябле — меншае. Найбольш вартаснае ў хрэне гэта яго карэнні — тоўстыя, белыя, разгалінаваныя, мясістыя. Сцябло расце да 50 см вышыні. Кветкі прамяністыя, белыя, сабраныя ў густыя пучкі. Хрэн у асноўным не дае насення і размнажаецца вегетатыўна.

Для саджанцаў бяруць тонкія карэнні таўшчынёю алоўка, па магчымасці найдаўжэйшыя (20—30 см). Вясною кладуць іх плытка ў глебу, амаль гарызантальна, таўсцейшым канцом уверх. Пры таўсцейшым корані хрэна пакідаюць толькі 1—2 лісточкі, рэшту выбіваюць. У канцы чэрвеня ліквідуюць карэнні, якія вырастаюць пад лісткамі, а пакідаюць іх толькі ў тонкім канцы саджанцаў і прысыпаюць ізноў зямлёй.

Толькі тады пасаджаны корань таўсцее на цэлай даўжыні, дасягаючы восенню дыяметра 3 см або і больш. Восенню хрэн трэба выкапаць і ў склепе прысыпаць зямлёю, прызначаючы тоўстыя карэнні для спажыцця, а тонкія (чым даўжэйшыя, тым лепш) — вясною на новыя саджанцы. Калі не будзем ліквідаваць летам дадатковых карэнняў пад сцяблом і ўздоўж саджанцаў, атрымаем тады шмат такіх карэнняў, якія немагчыма сцерці на тарцы.

Лячэбнай сыравінай з'яўляюцца свежыя карэнні хрэну — *Radix Armoraciae*. Свежы корань хрэну, падражняючы скуру, уздзейнічае на арганізм супрацьрэўматычна і бактэрыябойча. З'едзены хрэн выклікае выдзяленне страўнікавых сокаў.

Аднак жа нельга прыкладаць хрэн да скуры на доўгі час, паколькі можа ён выклікаць яе пашкоджанне, запаленне, пухіры і гнаенне.

Паўсюдна свежы хрэн выкарыстоўваецца ў якасці вострай дыэтэтычнай прыправы (асабліва да цяжкастраўнай яды) і некаторых соусаў. Стымулюючы выдзяленне страўнікавага соку, ён дапамагае арганізму прысвойваць яду і паляпшае абмен рэчываў.

Хрэн у выглядзе сіропу дэзінфекуе верхнія дыхальныя шляхі і дапамагае адкашліваецца. З увагі на значную колькасць вітаміну С хрэн мае вялікае значэнне для арганізма наогул, папярэджвае захворванне на цынгу (szkorbut) і спрыяе ўтрыманню адпорнасці арганізма.

Пры рэўматычных хваробах хрэн прыкладаюць да хворых, балючых месц. Хрэн падражняе і сагравае, у выніку чаго знікае боль, змяншаецца пухліна, паляпшаецца рухавая здольнасць суставаў рук і ног, а таксама хрыбта. Добры хрэн і на запаленне нервовых карэньчыкаў (радыкуліт) ды іншыя падобныя хваробы.

У народнай медыцыне прымяняецца знешне сок са свежага, сцертага хрэну з дадаткам 10-працэнтнага аміяку ў прапорцыі 4:1. Уціраюць яго ў суставы з артрытычнай пухлінай, а таксама пры запаленні сцягна. Мязгу з хрэну таксама прыкладаюць на скуру пры рэўматычных хваробах, пры болях суставаў і мышцаў, а таксама сцягна.

**Хрэнны сіроп.** Да 100 г свежага, сцертага на тарцы хрэну дадаць паўшклянкі кіпячонай, астуджанай вады і пакінуць на паўгадзіны пад покрыўкай. Тады выцісчуць сок праз палатно і дадаць 100 г мёду ці салодкага соку з садавіны ці ягад. Пяць тры разы ў дзень па сталовай лыжцы пры кашлі, катарах верхніх дыхальных шляхоў. Дзецям падаваць па чайнай лыжачцы.

**Кампрэсы з хрэну.** Дробна сцерці свежы корань хрэну. Мязгу палажыць на хворае месца і накрыць цыраткай. Трымаць так доўга, пакуль не пачне моцна пячы. Тады кампрэс зняць, а скуру выцерці насуха. Калі б і тады пякло надта моцна, змазаць скуру рыбім тлушчам альбо алеем ці іншым тлушчам.

Да сцертага хрэну карысна было б дадаць па лыжачцы парашку з кораня аеру і кораня рагулькі (жывакосту).

**ЭСКУЛАП**




Астроне!

Сніцца мне младзенец Гаўрыіл. Як бы гэта было на могілках. І была як бы Гаўрыілава статуя, выразьбленая з каменя на яго магіле. Быў нагробнік, крыж. На магіле расла прыгожая зялёная папарацы. Я стаяла збоку і нахілілася да тае статуі, а яна адхілялася ад мяне. Тады я стала на калені і пачала маліцца. І тая статуя як бы нахілілася да мяне.

А пасля я ў нейкай хаце. Младзенцу Гаўрыілу гадоў 12-13. Ён у школьным цёмнасінім нейлонавым фартушку, які быў расшпілены. Ён глядзеў у вакно, а я сядзела побач з ім і думала: „То ж трыста гадоў ужо мінула, а ён яшчэ жывы..." Ён устаў ад таго вакна, быў каля дзвярэй. А я пытаю, седзячы, у яго: „Майго сына будуць аперыраваць, ці ён выжыве?" Святы Гаўрыіл зрабіў такую кіслую міну і даў два чырвоныя яблыкі мне і два майму мужу. Я пачала есці адзін яблык, а ён у сярэдзіне нейкі прыпсуты. Але, думаю, зверху ўсё ж добры, дык раю мужу, каб і ён еў.

**Тамара**

Тамара! Непакоіць цябе сітуацыя, у якой апынуўся твой сынок. Можа младзенец Гаўрыіл прадвяшчае яму ратунак. Нездарма кажуць, што дастаткова дакрануцца да яго святых мошчаў, каб дзіця паправілася. Зрэшты, ты была на могілках, а гэта абазначала б для цябе спакой і задавальненне, перамешваўся там смутак (крыж) і надзея (зялёная папарацы), але ўсё ж статуя нахілілася да цябе (хаця спачатку адхілялася) і гэта дае надзею, што Гаўрыіл будзе да вас добразычлівы.

Тыя яблычкі сведчаць аб непакоях і нейкай спрэчцы пры гэтым.

**АСТРОН**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710 а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

4098. Аляксандр Іванюк /Гайнаўка/ - 100.000 зл.
4099. Ірына Парфянюк /Гайнаўка/ - 120.000 зл.
4100. Пётр Яновіч /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4101. Ніна Прыступюк /Гайнаўка/ - 60.000 зл.
4102. Галіна і Славамір Трашчоткі /Кляшчэлі/ - 100.000 зл.
4103. Надзея Андраюк /Гайнаўка/ - 60.000 зл.
4104. Ян Дземянюк /Леўкі/ - 100.000 зл.
4105. Управа гміны ў Гайнаўцы - 10.000.000. зл.
4106. Гражына і Славамір Бароўскія /Беласток/ - 50.000 зл.
4107. Міхал Келбашэўскі /Гайнаўка/ - 50.000 зл.
4108. Ян Ляшчук /Гайнаўка/ - 23.800 зл.
4109. Сяргей Харкевіч /Гайнаўка/ - 500.000 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

Навеянае прачытаным

### ПАТРЫЯТЫЧНЫ АЎКЦЫЁН

Прыснілася мне, што мой сардэчны калега Іванка быў выдатным беларускім паэтам. Калі надрукавалі яго вершы ўкраінцы — стаў ён выдатным украінскім паэтам. Не ўсе аднак прызнаюць яго паэтычнае майстэрства, падсмейваюцца з яго творчасці. Што гэта можа абазначаць?

**Коля**

Коля! Самыя выдатныя аўтары, такія як Бальзак, Ван Гог ці Бізэ не заўсёды знаходзілі прызнанне ў вачах сваіх сучаснікаў. Няйначай з тваім сардэчным калегам — ён напэўна атрымае вялікае прызнанне і напэўна не меншае ад вышэй згаданай тройкі стваральнікаў літаратуры, жывапісу і музыкі. Да таго ж Іванка стане выдатным шматмоўным паэтам і думаю, што ўжо нядоўга гэтага чакаць. Калі неўзабаве спаткаеш яго ў Бельску з гадзіннікам на руцэ, значыць гэта будзе, што ён атрымаў яго ад швейцараў і стаў тады выдатным швейцарскім паэтам і патрыётам. Калі ж убачыш у яго зялёны банкнот, абазначаць гэта будзе, што атрымаў яго ад амерыканцаў і з гэтага моманту стаў выдатным амерыканскім паэтам і патрыётам. Калі з ягонай кішэні выглядаць будзе бутэлька з этыкеткай „Royal", абазначаць гэта будзе, што атрымаў яе ад саветаў і такім чынам стаў выдатным савецкім паэтам і патрыётам. Калі ж спаткаеш яго голага і босага, абазначаць гэта будзе, што стаў ён майстрам паэтычнага слова ў папуасаў. Магчыма, што аб'явіць ён міжнародны аўкцыён на свой патрыятызм, пасля якога стане паэтам і патрыётам таго, хто падсыпле яму найбольш бліскучак. Не хвалюйся, Коля, гэтым — замежных моваў не трэба будзе вывучваць: каб чытаць яго вершы, хопіць знаёмства з гражданкай і лацінкай.

**АНДРОН**

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ сукупнасць метэаралагічных умоў, уласцівых пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін, 6/ зашклёная рама, 8/ вузкая дарожка, 9/ лісічка або абабак, 10/ нізкі мужчынскі голас, 12/ званне, звязанае з пачэснай пасадай, 13/ мера вагі ў Старажытным Рыме, 14/ галаўны ўбор салдат у еўрапейскіх арміях у XVIII-XIX стагоддзях, 16/ для зачэрпвання рэдкай ежы, 17/ мужчынскі галаўны ўбор у мусульман — доўгі кавалак тканіны, абкручаны некалькі разоў вакол галавы.

**Уніз:** 2/ адварот на грудной частцы вопраткі, якая зашпільваецца, 3/ граніца, 4/ парны бальны танец, 5/ невялікі мяшок, 7/ папярэджвае Вялікі пост, 10/ аўтарка вядомага верша „Люблю наш край, старонку гэту...", 11/ моцны холад, мароз, 12/ прылада для раздрабнення чаго-небудзь, 15/ вынік акіслення жалеза.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 3 н-ра. Управа:** палац, педагог, пантэра, Патсдам, паветра, паўза. **Улева:** палец, парадак, пострах, прысмак, палетак, проза.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Яніна Кандрацюк** з Катлоўкі і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | | 4 | ■ | ■ | 5 |
| ■ | | ■ | | ■ | 6 | 7 | | |
| 8 | | | | | | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 9 | | | |
| 10 | | 11 | ■ | 12 | | | ■ | |
| 13 | | | | | ■ | | ■ | ■ |
| | ■ | | ■ | 14 | | | | 15 |
| 16 | | | | | ■ | | ■ | |
| | ■ | | ■ | 17 | | | | |




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцыляры), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 28 lutego 1993 r. Wpłaty przyjmują wszystkie urzędy pocztowe.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w II kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры „белавежскія”*

**САКРАТ ЯНУСАПАДОБНЫ**

На чытацкім рынку
Сонца грэе ў спінку.
Дык стаіць Ён задам,
Паплёўвае ядам.

**P.S.**

Удаўся ў Януса Сакрат,
Наш пракурор, суддзя і кат.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## СЕНТЭНЦЫІ

Скрыўленыя губы гавораць болей, чымся язык.

* * *

Хор нямых грыміць цішшу.

* * *

Словы прарока ў пустэльні вартыя столькі, што Ніц.

* * *

Лямант бедных скідае маску са спарахнелых помнікаў.

**БАРЫС РУСКО**

## НА ВАРШАЎСКІМ "СТАДЫЁНЕ"

Менчук па-польску не балакаў,
Але пацешыў варшавякаў,
Калі хамут ён прадаваў,
З якім на шыі гарцаваў,
Як борзды конь незацугляны...
Дзівак ён быў, ці можа п'яны...

**АНАТОЛЬ ЦЫРКУНОЎ**

# НІЎКА



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Прабач, што непакою цябе ў такой справе. Бо справа датычыць маёй малой дачушкі. Ёй дзевяць гадоў, зусім яшчэ дзіця, а паводзіць сябе, як паненка якая.

Памятаю сябе ў такім узросце. Здаецца, было гэта зусім нядаўна. Нічога падобнага мне тады ў галаву не прыходзіла. А яна стаіць увесь час у люстэрку, любіць аглядаць сябе з усіх бакоў. Калі збіраецца купацца, дык распранаецца, а тады яшчэ мусіць пастаяць голая перад люстэркам, пахадзіць, павыкручвацца. Я яе не паспяваю ганяць.

А што ўжо гаварыць пра тэлевізію. Як толькі ў нейкім фільме здараецца эратычная сцэнка, дык яе не адарваць. А як адарвеш, калі тэлевізар гэта сёння найлепшая цацка для дзяцей і дарослых. І што тут зробіш, калі і ўдзень даюць фільмы, дзе поўна сексу... Як тут ахоўваць дзіця перад залівам сексу, калі нават у спецыяльных фільмах для дзяцей усё дакладненька тлумачаць. Раскрыла рот малая, аглядае ўсё са здзіўленнем, а тады толькі пра гэта разважае.

Калісь выходзім з ёю на двор, а яна бачыць счапіўшыхся сабак і пачынае мне тлумачыць, што сабакі „звязаліся”, бо „сабака-хлопчык” улажыў сваю сюську ў сюську „сабакі-дзяўчынкі”, а пасля будуць шчаняты. Пытаюся, адкуль яна ўсё гэта ведае, а яна звычайна кажа, што з тэлевізіі. Яшчэ, кажа, было ў адным фільме, як хлопчык дзяўчынцы ўкладае.

Сэрцайка, я разумею, што цяпер сексуальная асвета стаіць на парадку дня. Тым больш усё гэта важнае, што забаронена аборцыя. Дзіця павінна ведаць, што і як, уваходзячы ў жыццё, бо могуць яму надарыцца вельмі прыкрыя неспадзеўкі. Але ўсё ж, як памятаю, у мае дзіцячыя гады гэтага не было. Усё неяк было ў меру. А ў маёй дачушкі адчуваецца проста нездаровае зацікаўленне сексам.

Вельмі мяне гэта непакоіць. А што будзе, калі праз год яна захоча пераканацца, як тое, што яна бачыла на экране і што ёй тлумачылі фахоўцы, выглядае на практыцы?.. Што рабіць, як адвесці яе думкі ад такіх спраў?

**Надзея**

Надзея! Думаю, што ты непатрэбна хвалюешся. Дзяўчаткі ў гэтым узросце любяць аглядаць сваё цела, як бы вывучаць яго. Секс — гэта тое новае, што неўзабаве ўвойдзе ў яе жыццё, тое, пра што яна яшчэ не ведала, а пазнае толькі цяпер. Добра, што яна гэта пазнае паступова. Мяркую, што крыху раней ты ўжо сама ёй нешта сказала.

Аднак жа кепска, калі зацікаўленне гэта нездаровае. Трэба рабіць неяк так, каб пасля такіх размоў пераходзіць да парадку дня. Не саромець яе, не здзіўляцца, не сварыцца. Выслухаць, адказаць, а пасля звычайна перайсці да іншай тэмы.

Трэба знайсці для дачушкі альтэрнатыву — спорт, замежныя мовы, а можа ігру на гітары. Дзіця павінна само выбраць сабе дадатковы занятак, які заняў бы яго ўвагу. Могуць гэта быць нават кактусы ці трусы — абы дзіця гэтае хобі прыцягвала.

**СЭРЦАЙКА**

*З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ*

## POUFNE

N o t a t k a

służbowa w sprawie wykluczenia z szeregów partii
Ob. Sokrata JANOWICZA.

W miesiącu wrześniu 1970 r. Wojewódzka Komisja Kontroli Partii w Białymstoku rozpatrywała sprawę Ob. Sokrata Janowicza. W wyniku długiej dyskusji i rozważań, został on wykluczony z szeregów partii z jednoczesnym wnioskiem zwolnienia z pracy w Redakcji "Niwa".

Podstawą do wykluczenia z partii był napisany list do Obywatela ZSRR Karpiuka, który ten list przesłał do KW PZPR. Z treści tego listu wynika, że Ob. Janowicz w sposób oszczerczy szkaluje Związek Radziecki i Polskę w sprawach polityki narodowościowej. Między innymi stwierdza...., że obecnie wychwala się Armię Radziecką gdy ona w czasie wojny przedstawiała bandę gwałcicieli kobiet i pijaków....,. Według jego oceny żołnierze Radzieccy gorzej zachowywali się w Polsce i na innych terenach, niż armia hitlerowska....,.

Odnośnie polityki narodowościowej, to on zarzuca iż w BSRR nie ma żadnych swobód demokratycznych. Obywatele ZSRR mieszkający na Białorusi, nie mają możliwości rozwijania i pogłębiania języka ojczystego. Rosjanie stosują ekspansję i rusyfikują Białoruś.

Jak wynika z powyższego Ob. Sokrat Janowicz w sposób wulgarny charakteryzuje życie obywateli w Białoruskiej Republice Socjalistycznej. Natomiast odważył się stwierdzić iż w Polsce nikt nie zna się na polityce narodowościowej.

W toku rozprawy na WKKP Ob. Sokrat Janowicz nie zaprzeczał iż taki, a nie inny reprezentuje pogląd na sprawy narodowościowe.

Końcowo nadmienia się. iż Ob. Janowicz niejednokrotnie zajmował antypartyjne stanowisko w swych artykułach pisanych do "Niwy" lub kalendarzy białoruskich. Przeprowadzane z nim rozmowy na te tematy przez przedstawicieli KW PZPR i Urzędu Spraw Wewnętrznych nie dawały pożądanych rezultatów.

Ob. Sokrat Janowicz obecnie nie pracuje w Redakcji "Niwy", zwolnił się na własną prośbę z dniam 1 listopada 1970 r.

## АНЕКДОТЫ АД ФЯДОТА

Пытаюць расейца:
- Ты любіш сваю Радзіму?
- Люблю.
- Памрэш за яе?
- Памру!
Пытаюць яўрэя:
- Ты любіш сваю Радзіму?
- Люблю!
- А можаш памерці за яе?
- А хто ж тады будзе любіць Радзіму?

* * *

- Мыкола, знаеш як білорусы пыво називають?
- Як?
- Пі-і-ва.
- Як-як?
- Пі-і-ва.
- Убыв бы!

* * *

Калі амерыканцы высадзіліся на Месяцы, Брэжнеў пазваў у Крэмль сваіх касманаўтаў і сказаў:
- Амерыканцы на Месяцы. Трэба іх пераплюнуць, мы тут параіліся і вырашылі пасласць вас на Сонца.
Касманаўты захваляваліся:
- Мы ж там згарым!
- Вы думаеце, што ва ўрадзе дурні сядзяць? Ноччу паляціце.

* * *

На прэс-канферэнцыі ў Хрушчова спыталі:
- Як удалося савецкім футбалістам гуляць у сучасны атакуючы футбол?
- А я ім паабяцаў: калі, як і раней, пачнуць валяць дурня, то ўсе футбольныя палі засею кукурузай.

* * *

- Што ў вас самае пастаяннае?
- Часовыя цяжкасці.